ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
Каталіцкі ВЕСНІК
№12 (93) снежань 2018 год
CATHOLICNEWS.BY

# Са святам Божага Нараджэння!

**Дарагія браты і сёстры ў Хрысце, шаноўныя суайчыннікі!**

"Не бойцеся, я абвяшчаю вам вялікую радасць, якая будзе для ўсяго народу, бо нарадзіўся вам сёння ў горадзе Давіда Збаўца, Якім ёсць Хрыстос Госпад" (Лк 2,10-11). Нарадзіўся вам сёння Збаўца! У той далёкі ад нас час пасланец з неба абвесціў праўду, якая кранае кожнага чалавека: з намі ёсць Бог! "...Які быў і які прыходзіць, Усемагутны"! (пар. Ап.1,8).

Прысутнасць Бога можна параўнаць у нейкім сэнсе з наяўнасцю паветра. Яно не толькі дазваляе нам дыхаць, а гэта азначае – жыць, але і абараняе ад розных шкодных уплываў. Больш за тое, чалавек карыстаецца паветрам і ў сваёй дзейнасці, дзякуючы чаму не толькі жыве, але і арганізоўвае сваё жыццё. Аднак на гэтым аналогія заканчваецца. Бог чакае ад чалавека адказу, свядомага прыняцця Яго Любові. Менавіта таму "...слова сталася целам і пасялілася між намі"(Ян 1,14). Бог прыходзіць да нас як Чалавек, але таксама і праз чалавека: "...тое, што вы зрабілі аднаму з гэтых братоў Маіх меншых, вы Мне зрабілі" (Мц 25,40). У гэтым заключаецца сэнс збаўлення, каб вярнуць нам поўную лучнасць з Богам, якую мы страцілі праз грэх, і дасягнуць вечнага жыцця.

Безумоўна ж, прыняць гэтую праўду мы можам толькі праз веру. Бо вера – гэта досвед нашых адносінаў з Богам, Які, напэўна, неаднойчы даваў нам адчуць сваю прысутнасць. Наколькі мы былі здольныя гэта заўважыць? Найпрасцей гэта зрабіць дзецям, больш шчырым і адкрытым на праўду. Таму Езус скажа ў свой час: "...калі не навернецеся і не станеце як дзеці, не ўвойдзеце ў Валадарства Нябеснае" (Мц 18,3). Ён сам прыходзіць у гэты свет як маленькае Дзіцё, каб паказаць, што не нясе з сабой нічога, што было б незразумелым ці немагчымым да прыняцця, чагосьці, чаго трэба баяцца.

Няхай Свята Божага Нараджэння стане для кожнага з Вас момантам новага адкрыцця Божай Любові, а Яго прысутнасць напоўніць Вашыя сэрцы святлом і супакоем, дапамагаючы пераадолець жыццёвыя цяжкасці! Радасці, дабрабыту, духоўнай раўнавагі і Божага бласлаўлення на гэты час і на новы 2019 год!

Са Святам!

**+ Алег Буткевіч**
**біскуп Віцебскі**



## Ці можа быць католік чальцом БРСМ?


Стар. 11

## Як зараз праходзяць уступныя экзамены ў семінарыю?


Стар. 3

## У чым галоўная праблема Касцёла ў Беларусі?


Стар. 9

Каталіцкі ВЕСНІК
№12(93)
снежань 2018 г.

# Абнародавана афіцыйная праграма візіту Папы ў ААЭ

**Зала Друку Апостальскай Сталіцы абнародавала праграму Апостальскага падарожжа Францішка ў Аб'яднаныя Арабскія Эміраты. Яно адбудзецца 3-5 лютага 2019 года.**

Святы Айцец вылеціць з Рыма 3 лютага а 13.00. Яго прыбыццё ў Прэзідэнцкі аэрапорт Абу-Дабі чакаецца каля 22.00.

На наступны дзень, 4 лютага, апоўдні пройдзе цырымонія прывітання Пантыфіка ў Прэзідэнцкім палацы і афіцыйны візіт да наследнага прынца Абу-Дабі, шэйха Мухамада ібн Зайда Аль Нахаяна.

У 17.00 запланавана прыватная сустрэча Папы з чальцамі Рады мусульманскіх старэйшын, якая пройдзе ў Вялікай мячэці шэйха Зайда. Праз гадзіну Папа Францішак прыбудзе на Міжрэлігійны міжнародны форум у сталічным Мемарыяле заснавальнікаў. Ён звернецца з прамовай да ўдзельнікаў.

5 лютага раніцай Святы Айцец наведае катэдральны касцёл у Абу-Дабі, затым будзе цэлебраваць Эўхарыстыю на тэрыторыі спартыўнага комплексу "Зайд Спортс Сіці". Пасля літургіі Пантыфік накіруецца ў Прэзідэнцкі аэрапорт Абу-Дабі, адкуль пасля афіцыйнай цырымоніі развітання вылеціць у Рым. Прылёт Папы ў аэрапорт "Чампіна" запланаваны на 17.00.

Апостальскі візіт у Аб'яднаныя Арабскія Эміраты стане 26-й замежнай паездкай Папы Францішка. Папа наведае краіну на запрашэнне шэйха Мухамада ібн Зайда Аль Нахаяна і мясцовага Касцёла.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*



# Папа Францішак: думаць пра канец жыцця – гэта мудра

**Мудра думаць пра канец жыцця. Гэта не вельмі прыемна, але неабходна, – заўважыў Папа падчас ранішняй святой Імшы, якую 27 лістапада цэлебраваў у капліцы сваёй ватыканскай рэзідэнцыі.**

У гаміліі Папа Францішак казаў пра канец свету і канец жыцця чалавека, бо "апошні тыдзень літургічнага года ў Касцёла прымушае задумацца менавіта пра гэта". Спасылаючыся на чытанне кнігі Апакаліпсіса (14,14-19), ён зазначыў, што тут канец свету прадстаўлены як жніво. Калі прыйдзе наш час, мы павінны будзем "паказаць якасць нашага зерня, якасць нашага жыцця", – заўважыў Папа.

"Будзе карысна на працягу гэтага тыдня падумаць пра канец. Калі Пан пакліча мяне сёння, што я буду рабіць? Што буду казаць? Якое зерне пакажу Яму?", – заўважыў Папа Францішак. Ён падкрэсліў, што думкі пра канец жыцця павінны дапамагаць крочыць далей з надзеяй на сустрэчу з Богам.

"Так, настане канец, але гэты канец будзе сустрэчай, сустрэчай з Панам. Гэта праўда, што трэба будзе даць справаздачу з таго, што мы рабілі, але таксама гэта будзе міласэрная, радасная, шчаслівая сустрэча. Думаць пра канец, пра канец стварэння, пра канец уласнага жыцця – гэта мудра. Мудрыя людзі так робяць", – дадаў ён.

*Беларуская рэдакцыя Vatican News*



# Беларусы на 13-м месцы паводле ўзроўню рэлігійнасці ў Еўропе

**Беларусь заняла 13-е месца ў рэйтынгу рэлігійнасці сярод 34 еўрапейскіх краін. Пра гэта са спасылкай на даследаванні цэнтра Pew Research паведамляе партал TUT.BY.**

Вынікі сацыялагічнага апытання, якое праводзілася ў 2015–2017 гг., былі апублікаваныя на пачатку снежня. У ходзе даследавання па тэлефоне і асабіста былі апытаныя каля 56 тысяч чалавек, старэйшых за 18 гадоў, з 34 краін Заходняй, Цэнтральнай і Усходняй Еўропы.

Падчас апытання амаль кожны трэці беларус заявіў, што шчыра верыць у Бога.

"У цэлым, еўрапейцы менш рэлігійныя, чым жыхары іншых частак свету. Але і ўнутры Еўропы часам назіраюцца значныя адрозненні", – паведамляюць аўтары даследавання.

Для ацэнкі ўзроўню рэлігійнасці аналітыкі вылучылі чатыры паказчыкі: ці верыць апытаны ў Бога? Ці ўдзельнічае ў набажэнствах? Як часта моліцца? Наколькі важнай лічыць рэлігію ў сваім жыцці?

У агульным рэйтынгу рэлігійнасці насельніцтва Беларусі заняло 13-ю пазіцыю. Па ацэнках сацыёлагаў, 27% насельніцтва нашай краіны можна лічыць рэлігійнымі людзьмі.

Так, амаль кожны чацвёрты з апытаных беларусаў прызнаўся, што абсалютна верыць у Бога і штодзённа моліцца. 30% апытаных як мінімум раз на месяц удзельнічаюць у набажэнствах, а 20% працэнтаў паведамілі, што рэлігія вельмі важная ў іх жыцці.

Паводле аўтараў даследавання, жыхары Цэнтральнай і Усходняй Еўропы часцей маюць высокую рэлігійнасць у параўнанні з заходнееўрапейцамі. Так, у Арменіі і Грэцыі амаль палова насельніцтва з'яўляюцца рэлігійнымі людзьмі, а ў Даніі, Швецыі і Вялікабрытаніі – толькі кожны дзясяты.

У топ-10 самых рэлігійных краін трапілі Румынія, Арменія, Грузія, Грэцыя, Малдова, Боснія, Харватыя, Польшча, Партугалія, Сербія. Найменш рэлігійнае насельніцтва ў Бельгіі, Швецыі, Чэхіі, Даніі і Эстоніі.

А вось як размеркаваліся месцы ў суседзяў Беларусі: Польшча – на 8-м месцы з 40% рэлігійнага насельніцтва, Украіна заняла 11-е месца (31%), Літва – на 16-м месцы (21%), Расія – на 20-м (17%), Латвія – на 23-м (15%).

*Catholic.by*

## Карта рэлігійнасці насельніцтва Еўропы паводле даследавання цэнтра Pew Research

*(чым цямнейшы колер, тым вышэй рэйтынг рэлігійнасці)*



# Як зараз праходзяць уступныя экзамены ў семінарыю?

*“Хвала Хрысту! Маю пытанне пра арганізацыю ўступных экзаменаў у семінарыю. Прачытаў ужо даўно, што ККББ пастанавіла, што пры паступленні ў семінарыю акрамя адпаведных семінарыйных іспытаў трэба падаваць яшчэ і вынікі ЦТ. У сувязі з гэтым прашу патлумачыць: вось калі семінарыст паспяхова здаў семінарыйныя іспыты, але ж “завaліў” ЦТ, напрыклад, па англійскай мове, то яго ўжо ў семінарыю не прымуць? І увогуле, хацелася б ведаць, як зараз праходзяць іспыты, з якімі цяжкасцямі можна сутыкнуцца і што патрабуецца ад абітурыента на экзаменах і ад семінарыстаў у самыя першыя дні іх вучобы. Растлумачце, калі ласка, бо гэта досыць важна для мяне асабіста. Дзякуй”.*
*Леў*

**На пытанне адказвае айцец Аркадзь Куляха OCD:**

– Дарагі Леў! Дзякуй за пытанне, якое, магчыма, цікавіць не толькі юнакоў і маладых мужчын, але і шматлікіх вернікаў, бо яно звязана з вельмі важнай і актуальнай справай пакліканняў, іх фармацыяй ды наогул з недахопам святароў.

### Таямніца паклікання

Трэба распачаць з праўды пра таямніцу святарства, якое з’яўляецца перадусім дарам Бога для канкрэтнага чалавека, а таксама для ўсёй супольнасці Касцёла. Неабходна заўсёды памятаць, што менавіта Бог ёсць Панам жніва і Ён кліча і выбірае, каго хоча, калі хоча і такім чынам, якім захоча. Калі хтосьці чуе голас паклікання ды прагне станоўча на яго адказаць, то павінен даверыцца Богу і з адвагай імкнуцца да ажыццяўлення Божага плану. Паколькі пакліканне нельга разглядаць у катэгорыі прафесіі, але толькі паклікання, то не трэба таксама падыходзіць да паступлення і навучання ў духоўнай семінарыі толькі як да адукацыйнага працэсу. Хоць варта дадаць, што не кожны можа быць святаром ці кансэкраванай асобай. Бог, выбіраючы чалавека для свайго служэння, дае яму ўсе неабходныя якасці і здольнасці для таго, каб той здолеў фарміравацца, вучыцца, а пазней выконваць даручаныя ў Касцёле заданні. Бог таксама заўжды шануе чалавечую свабоду і нікога не прымушае выконваць Яго волю.

Адным з патрабаванняў пры паступленні ў духоўную семінарыю ёсць здольнасць вучыцца. Пажадана пры гэтым, каб кандыдат вучыўся добра. Менавіта цэнтралізаванае тэставанне, а таксама ўступны экзамен у семінарыю маюць быць паказчыкам як інтэлектуальных магчымасцяў, так і ўзроўню ведаў будучага семінарыста.

### Не толькі веды

Як я пісаў вышэй, Бог Сам выбірае і кліча, каго захоча. І хоць адказная за фармацыю жадалі б мець у духоўных семінарыях самых здольных студэнтаў, але голас паклікання чуюць не толькі выдатнікі. Інтэлектуальны крытэрый хоць вельмі важны, але не адзіны пры наборы кандыдатаў на святарства. Апрача знаёмства з вынікамі цэнтралізаванага тэставання і экзамену, семінарыйная прыёмная камісія праводзіць таксама кваліфікацыйную размову з кандыдатам, каб выявіць сапраўднасць матывацыі для паступлення на навучанне ў школе Хрыста, духоўныя і маральныя здольнасці прэтэндэнта, а таксама гатоўнасць цалкам, у поўнай ступені прысвяціць сябе служэнню Богу і людзям. Прыёмная камісія імкнецца як мага больш шырока і ўсебакова паставіцца да просьбы маладога чалавека, каб таксама дзякуючы святлу Духа Святога, атрыманаму на малітве, прыняць правільнае рашэнне.

Леў цікавіцца, ці можа быць прычынай адмовы ў прыняцці ў семінарыю няздадзены іспыт? Такі стан рэчаў не дзейнічае аўтаматычна, і калі хтосьці паспяхова закончыў школу і прайшоў уступны экзамен, то недастатковая колькасць балаў па ЦТ не павінна перашкодзіць кандыдату стаць святаром. За гады служэння ў семінарыі і ўдзелу ва ўступных экзаменах магу пацвердзіць, што ніхто не быў пазбаўлены права навучацца ў школе Хрыста толькі па прычыне слабага атэстата аб сярэдняй адукацыі альбо дыплома аб заканчэнні іншай навучальнай установы.

### Omne initium difficile est

Лацінскі крылаты выраз кажа, што ўсялякі пачатак – складаны. Жыццёвы вопыт не толькі людзей у сталым узросце паказвае, што невядомае звычайна нас палохае і часта выклікае стрэс. Уступны экзамен і першыя дні ў духоўнай семінарыі тут не выключэнне. Здаецца, што таму, хто штодня дыхае жыццём Касцёла, нескладана паказаць рэлігійныя веды, аднак рыхтавацца трэба. Экзаменацыйныя пытанні датычаць Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, жыцця і структуры Паўсюднага ды лакальнага Касцёла. Кандыдаты пішуць сачыненне на адну з прадстаўленых тэмаў і пісьмовы тэст, ім трэба таксама прайсці кваліфікацыйную размову з прадстаўніком прыёмнай камісіі.

Кандыдатам для паступлення ў семінарыю раю звяртацца да сваіх душпастыраў, якія здольныя дапамагчы ім ў падрыхтоўцы да іспытаў, а таксама маліцца аб ласках Духа Святога, Які натхняе на добрыя намеры і дае сілы для іх ажыццяўлення. Святы Ян ад Крыжа кажа пра іншы, вельмі складаны экзамен, які кожны павінен будзе здаваць: “Пад вечар жыцця будзе экзамен з любові”.

Пачатковы этап навучання ў духоўнай семінарыі мае мэтаю дапамагчы семінарыстам паглыбіць чалавечую, духоўную і інтэлектуальную асабістую фармацыю, каб яны маглі свабодна і без перашкод будаваць адносіны з Богам і людзьмі ды развіваць сваю асабовасць. Сэрцам усялякай фармацыі з’яўляецца камунія з Богам і адкрытасць на Яго ласку, таму штодзень навучэнцы і фарматары імкнуцца адпаведны час прысвяціць на супольную і асабістую малітву. Неабходна памятаць, што семінарыя – гэта не толькі месца, дзе студэнты здабываюць веды, але яны перш за ўсё адказваюць на надпрыродны дар паклікання і крочаць за Хрыстом, Які іх выбраў ды надзяліў усім патрэбным, каб на гэты дар адпаведна адказаць.

У асноўным працэс навучання, г. зн. слуханне лекцый, практычныя заняткі, самападрыхтоўка, залікі, экзамены ды іншыя мерапрыемствы, падобныя ці такія ж, як у многіх вышэйшых навучальных установах. Калі хтосьці адчувае ў сваім сэрцы голас паклікання, то няхай найперш думае пра дабрыню і любоў Бога, Які яму паспрыяе сваёй моцаю ды паставіць адпаведных людзей, гатовых дапамагчы. Тым, хто думае пра святарства, варта таксама карыстацца акцыяй “Семінарыст на ўікэнд” або іншай магчымасцю наведаць семінарыю і паразмаўляць як з клерыкамі, так і з выхавальнікамі.

### Пакліканні нараджаюцца з малітвы

Святы Айцец Францішак сказаў: “Калі ты адчуваеш, што Езус цябе кліча, калі Яго голас запальвае тваё сэрца, то адбываецца гэта таму, што Бог Айцец змясціў у тваім нутры імкненне да любові, праўды, жыцця, прыгажосці..., а паўната ўсяго гэтага – Езус! Гэта дапамагае нам зразумець таямніцу паклікання” (Разважанне перад малітвай Regina Coeli, 04.12.2013). Папа слушна заўважыў, што “пакліканні нараджаюцца з малітвы” (пар. Тамсама). Таму на заканчэнне хачу папрасіць Льва, усіх тых, хто адчувае голас Пана “Ідзі за Мною” і чытачоў “Каталіцкага Весніка”, маліцца аб новых пакліканнях і за тых, хто даў Хрысту станоўчы адказ. Слова і чын у праўдзе, малітва, бачанне шчасця святароў і кансэкраваных асобаў – гэта адзін з найлепшых спосабаў дапамагчы, або “заахвоціць” маладых жанчын і мужчын да святарства і манаскага жыцця. Катэхетычная дзейнасць, душпастырства моладзі і студэнтаў – усё гэта з'яўляецца важным элементам інфармавання пра розныя пакліканні ў Касцёле і дапамогае ў выбары дарогі жыцця. Семінарыі ў нашай краіне, як у Пінску, так і ў Гродне, маюць усе ўмовы, каб паспрыяць адпаведнай фармацыі будучых святароў.

У духоўных семінарыях Хрыстос чакае тых, каго Сам выбірае і кліча ісці за Сабою. Льва і тых, хто мае намер паступаць у школу Хрыста, давяраю Божаму Провіду ды жадаю адвагі і руплівасці ва ўсім, што каштоўнае. Deus benedicat! Блаславі, Божа!



## Ва Украіне манашкі змогуць фатаграфавацца на пашпарт у вэлюмах

**Міністэрства ўнутраных спраў Украіны сумесна з Дзяржаўнай міграцыйнай службай выступілі з прапановай перагледзець стандарты фатаграфавання на дакументы.**

У прыватнасці, змены закрануць манашак, якія для афармлення замежнага пашпарта змогуць фатаграфавацца ў вэлюмах (галаўны ўбор жаночага габіта).

22 лістапада ў Міністэрстве прайшла адмысловая нарада з удзелам у тым ліку прадстаўнікоў рэлігійных супольнасцяў у краіне, падчас якой абмяркоўваліся праблемныя пытанні, з каторымі сутыкаюцца прадстаўнікі розных веравызнанняў.

Пытанні датычыліся фотаздымкаў на дакументы, а менавіта пашпартоў грамадзяніна Украіны і пашпартоў для выезду за мяжу, пасведчанняў на пастаяннае або часовае пражыванне, пасведчанняў бежанцаў і г.д.

Намеснік міністра ўнутраных спраў Таццяна Кавальчук звярнула ўвагу, што дзяржаўны стандарт прадугледжвае фатаграфаванне для пашпартоў выключна без галаўных убораў.

“Мы павінны зрабіць усё, каб даць магчымасць асобам, якія належаць да розных рэлігійных рухаў, фатаграфавацца на дакументы, не парушаючы іх рэлігійныя перакананні. Вырашэнне гэтага пытання ў маштабах Украіны ляжыць выключна ў плоскасці змены стандартаў”, – адзначыла Таццяна Кавальчук.

Старшыня Дзяржаўнай міграцыйнай службы Украіны Максім Сакалюк дадаў, што гэта будзе правільным шляхам для вырашэння гэтай праблемы.

Са зменаю нацыянальнага стандарту будзе дасягнуты прынцып абавязковых і факультатыўных элементаў ідэнтыфікацыі асобы з улікам асаблівых выпадкаў фатаграфавання.

“Галаўныя ўборы не дазваляюцца, за выключэннем выпадкаў, прадугледжаных дзяржаўнымі органамі (рэлігійныя звычаі, медыцынскія прадпісанні ці культурныя традыцыі)”, – сказана ў правілах. Аднак на ўнутраны пашпарт такі здымак зрабіць не атрымаецца: дакумент будзе несапраўдным.

У Беларусі манашкі павінны фатаграфавацца на пашпарт без вэлюму.

*Паводле Catholic.by і CREDO*

# Как жить?

## 15 советов от Папы Франциска



**О том, как жить счастливой и полной жизнью, быть свободными и радостными, переживать трудности и падения, сохраняя надежду и мир в сердце, подскажут 15 цитат из проповедей и публичных речей Папы в 2018 году.**

### 1. Не зависеть от проблем

Вот мудрое отношение к жизни: жить, не завися от проблем: – решишь одну – появится другая! Но доверять Богу и вверять Ему себя каждый день: "Вот я!" "Вот я" – это слово. "Вот я" – это молитва.

### 2. Желать Господа

Мы призваны жить не ожиданиями, а в ожидании, то есть желать Господа, всегда приносящего всё новое. Важно уметь Его ждать, и делать это не сидя сложа руки, но активно и любя.

### 3. Принять ответственность за свою свободу

В каждом из нас живёт стремление «рисковать собственной свободой», жить, открывая новые горизонты и возможности. Быть свободными – это вызов, постоянный вызов: он завораживает, пленяет, даёт смелость, побуждает мечтать, вселяет надежду, приводит к добру, даёт веру в будущее; это сильнее любого рабства. Мир нуждается в свободных людях!

### 4. Не бояться быть человечными

Не бойтесь плакать перед лицом трудных ситуаций: эти капли орошают жизнь, делают её более податливой. Слёзы сострадания очищают сердце и чувства.

### 5. Мечтать и рисковать

Нужно уметь мечтать и не бояться рисковать. Тогда в сердце молодого искателя начнёт звучать голос любви Иисуса, воспламеняя желание служить другим людям, которые находятся в нужде.

### 6. Не отчаиваться, когда терпим поражения

Крест учит нас тому, что в жизни есть провалы и победы. Мы должны уметь терпеть поражения, также и от наших грехов: Христос заплатил за нас, и мы должны терпеть их в Нём, просить прощения в Нём.

### 7. Стремиться к святости

Не бойтесь святости, посвящайте себя людям.

### 8. Говорить правду

Не лжесвидетельствовать – значает, жить как чадо Божье, которое никогда, никогда не опровергает самого себя. Никогда не лгать, жить как дети Божьи, в каждом поступке делая очевидной великую истину о том, что Бог – Отец и можно Ему доверять.

### 9. Не терять надежды

Жить с надеждой – это идти к награде, к счастью, которое будет не здесь, а там. Эту добродетель нелегко понять – она смиренна и кротка, однако она никогда не подведёт. Если мы надеемся, то никогда не будем разочарованы, никогда.

### 10. Отказаться от идолов

Идолы порабощают. Они обещают счастье, но не дают его. И человек вдруг обнаруживает, что живёт ради какой-то вещи или идеи, попав в саморазрушительный водоворот и ожидая результата, который никогда не наступает. Идолы устремляют наши взоры в будущее, заставляя презирать настоящее. Истинный Бог учит нас жить в реальности каждого дня.

### 11. Осознать собственную природу

Момент зрелости наступает, когда человек осознает, что ему чего-то не хватает. Быть человеком прекрасно, наша жизнь бесценна, и все же существует одна истина, которую на протяжении истории люди часто отвергали, причем с трагическими последствиями: истина о его пределах. Полноту человеку дарует только Господь Иисус, именно для этого Он пришёл.

### 12. Быть смиренными

Сегодня мир призывает жить для самих себя, внушая идею, что для жизни нужны не зёрна из Евангелия, которые, умирая, приносят плод, а деньги и власть. Но это лишь иллюзия: чтобы победить наше зло и зло мира сего, Бог не использует власть. Бог избирает путь смирения и любви.

### 13. Выйти из собственного эгоцентризма

Когда человек чувствует себя по-настоящему любимым, он сам хочет любить, будучи созданным по образу Божьему. Тогда он способен жить и действовать с мягкостью, которая далека от простого сентиментализма: это первый шаг к выходу из собственного эгоцентризма.

### 14. Любить себя

С момента Креста Христова никто не может презирать самого себя и плохо думать о своей жизни. Никто и никогда, чего бы ни натворил. Потому что имя каждого из нас – на плечах Христовых.

### 15. Не искать награды

Жить каждый день по-христиански – означает уподобляться свету, который предназначен для людей и призван помогать им в тёмные времена. Господь называет нас солью и светом, и порой мы понимаем это как призыв к активным действиям по привлечению людей в Церковь. Но это неверно, мы лишь должны помогать другим увидеть и прославить Небесного Отца. При этом мы не должны рассчитывать на какое-то признание наших заслуг.

*По материалам ruscatholic*

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

**Свае ахвяраванні нам даслалі: Г. Ярашынская** *(Вялікія Новікі)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **А.Л. Качан** *(Станулева)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Галіна Галуза** *(Падсвілле)*, **Часлава Гулевіч** *(Маладзечна)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Альфрэда Гарбунова** *(Дзісна)*, **Тэрэса Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **парафіяне з Чашнікаў**, **Яніна Курыловіч** *(Курылавічы)*, **Вольга Парневіч** *(Крулеўшчына)*, **Лія Мацюшонак** *(Прошкава)*, **Галіна Яблонская** *(Ёды)*, **Вераніка Абуховіч** *(Дунілавічы)*, **В.Н. Кавалеўская** *(Мёры)*, **Антон Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Валянціна Мурзёнак** *(Паставы)*, **Леаніна Астаноўка** *(Дзікева)*, **Ірэна Ядзевіч** *(Паставы)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Соф'я Чырвінская** *(Язна)*, **Алімпія Цішко** *(Старыя Габы)*, **Аліна Гайлеўская** *(Туркава)*, **Вацлаў Пашкевіч** *(Бігосава)*, **Канстанцін Кузьміч** *(Варапаева)*, **Яніна Шэнда** *(Зорка)*, **Казіміра Сіндрэвіч** *(Падсвілле)*, **Браніслава Юран** *(Браслаў)*, **Ванда Дзенісенка** *(Гомель)*, **Зянона Алексніна** *(Браслаў)*, **Алена Сасімовіч** *(Глыбокае)*, **Жанна Юрык** *(Глыбокае)*, **Марыя Юрык** *(Глыбокае)*, **парафіяне з Казянаў**, **Вінцэнты Навіцкі** *(Браслаў)*, **Лізавета Барткевіч** *(Слабодка)*, **Стэфанія Глод** *(Слабодка)*, **Ядвіга Барткевіч** *(Гаўрылаўцы)*, **Рэгіна Савіцкая** *(Гаўрылаўцы)*, **Феліцыя Падольская** *(Слабодка)*, **Валянціна Хаданёнак** *(Сталіца)*, **Ядвіга Казлоўская** *(Мяжаны)*, **Даната Пачкоўская** *(Савуткі)*, **Таццяна Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Вацлава Скрага** *(Падсвілле)*, **Марыя Кавалеўская** *(Докшыцы)*, **Даната Рудак** *(Янкова)*, **Вольга Мятла** *(Сталіца)*, **Феліцыя Небышынец** *(Дубовы Лог)*, **Генадзь Маркоўскі** *(Маладзечна)*, **Міхаіл Суднік** *(Струкі)*, **Эмілія Стакло** *(Юльянова)*, **Камілія Емельянава** *(Дунілавічы)*, **Яніна Дулінец** *(Савуткі)*, **Галіна Каспяровіч** *(Мураваная Ашмянка)*, **Галіна Драгун** *(Юркаўшчына)*, **Марыя Харнікава** *(Навасады)*, **Віталь Рагоўскі** *(Браслаў)*, **Юзэфа Афанасенка** *(Полацк)*, **Яўгенія Гунько** *(Барысаў)*, **Зоя Воранава** *(Шуміліна)*, **рух "Маці ў малітве"** *(Раготна)*, **Валянціна Маісеева** *(Сталіца)*, **Людміла Лоўкіс** *(Навасёлкі-2)*, **Рамуальда Суднік** *(Струкі)*, **Юрый Парфяновіч** *(Браслаў)*, **Эма Сцяпанава** *(Сталіца)*, **Бенедзікта Баранава** *(Двор-Пліна)*, **Эмілія Бугаева** *(Лынтупы)*, **Яўгенія Паўлава** *(Віцебск)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Тэрэса Варанецкая** *(Мёры)*.

Калі Вы хочаце дапамагчы "Каталіцкаму Весніку" сваімі ахвяраваннямі, дасылайце, калі ласка, іх праз Белпошту на ніжэйпададзены адрас:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793 г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

### Час прыспешвае

Час бяжыць. Прыспешвае ўсіх: "Спяшайцеся рабіць дабро! Навяртайцеся! Прыносьце плады пакаяння! Бо блізка ўжо сустрэча з Хрыстом сам-насам!"

### Выйсці з натоўпу

Мы прызвычайваемся жыць "як усе". Быць "як усе". Адчуваем сябе больш бяспечна і бесклапотна сярод натоўпу. Не трэба абцяжарваць сябе думкамі, турботамі. Рухаемся разам з іншымі безразважна.

Калі ж ты выходзіш з натоўпу, то даводзіцца прымаць адказнасць за свае рашэнні, за свой шлях, за сваё жыццё.

Ці хопіць разважлівасці і рашучасці выйсці з натоўпу насустрач Хрысту?

### Што падарыць Езусу?

Перадсвяточныя дні. Мітусня, прыбіранне ў кватэрах, пошук падарункаў для блізкіх. Часта ў гэтых шматлікіх клопатах мы забываемся падрыхтаваць падарункі для Езуса. А нованароджаны Езус у халодных і мулкіх ясельках даверліва чакае ад нас цеплыні і чыстасці сэрцаў, клапатлівых рук. Цярпліва напамінае нам пра такіх жа безабаронных і тых, хто патрабуе нашай дапамогі, любові і міласэрнасці, пра тых братоў і сясцёр, якія знаходзяцца побач, і на якіх мы не звяртаем сваёй увагі або адгароджваемся ад іх. Мы можам падарыць ім, а значыць і Езусу свой клопат, свой час, сваю любоў. І не толькі ў свята, але і ў кожны дзень нашага жыцця.

*Алена Пажога*



## Жыццё новае

Пачаўся новы літургічны год. Новае жыццё нясе гэты новы год. Якое яно? Для кожнага чалавека гэта сваё жыццё. Напэўна, у аднаго дабавіцца веры, у другога сэрца адкрыецца для Пана Бога, а ў трэцяга народзіцца вечнае шчасце прабывання ў лучнасці з жывым Панам. Маленькі Езус нясе для ўсіх толькі нешта добрае!

Гэтая ноч, ноч Божага Нараджэння – самая прыгожая на ўсім свеце – нясе шмат радасці, шчасця і супакою. Уся зямля пляскае ў далоні, бо Пан нарадзіўся! Свята Божага Нараджэння дае нам новыя думкі, новыя справы. Можа, Пан Езус прынясе нам перамены і ў краіне?

Хай стане людзям лепш жыць! Хай беды пойдуць прэч! Хто плакаў, хай радуецца. Няхай кожнае чалавечае сэрца сустрэне Езуса з любоўю, з верай! Будзем усе разам чакаць гэтых перамен!

*Альдона*

# Дзеля такіх момантаў варта жыць

**Пахвалёны Езус Хрыстус!**

Паважаныя чытачы! Звяртаецца да вас загадчык аддзялення дзённага знаходжання для інвалідаў дзяржаўнай установы "Тэрытарыяльны цэнтр сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Верхнядзвінскага раёна". Хачу расказаць вам пра акцыю, якая ўжо шосты раз праводзіцца ў нашым касцёле Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі, што ў горадзе Верхнядзвінску.

Ідэю акцыі "Мой анёл" падказала мне мая дачка, якая зараз жыве і працуе ў Польшчы. З прапановай я звярнулася да айца Тадэвуша Кавальскага. У той час ён быў пробашчам нашай парафіі і з задавальненнем падтрымаў мяне. Калі да нас прызначылі ксяндза Аляксандра і я паведаміла яму пра акцыю перад Божым Нараджэннем, таксама атрымала падтрымку.

У чым жа сэнс гэтай акцыі? Наведвальнікі нашага аддзялення – гэта дарослыя людзі з інваліднасцю – кожны год перад Божым Нараджэннем малююць і выразаюць анёлаў (хто як можа, у тым сэнсе, што людзі маюць абмежаваныя магчымасці і розныя ступені страты здароўя). Ім дапамагаюць кіраўнікі гурткоў і спецыялісты аддзялення. Ёсць такія маладыя людзі і дзяўчаты, якія нават лыжку трымаць не могуць ці не разумеюць, як яе трымаць, не кажучы пра нажніцы альбо аловак. Потым ужо гатовых анёлаў (падпісаныя на адвароце, да прыкладу – Вольга, 20 гадоў) мы адносім у касцёл і размяшчаем іх на ёлцы. А падпісваем на адвароце для таго, каб было больш зразумела, для каго будзе падарунак.

Затым я звяртаюся да вернікаў з просьбай паўдзельнічаць у акцыі. Пасля святой Імшы парафіяне здымаюць анёла з ёлкі і, напрыклад, Вользе рыхтуюць падарункі. Атрымліваецца, колькі анёлаў, столькі і падарункаў. Перад самым святам Божага Нараджэння падарункі я пераношу да сябе на працу. У перыяд свята Божага Нараджэння (звычайна ў аддзяленні ў нас гэта пасля 25 снежня) да нашых людзей з інваліднасцю "прыходзяць" святы Мікалай і з пашанай, павагай і пяшчотай аддае святочна ўпрыгожаныя пакункі-падарункі наведвальнікам.

Трэба бачыць гэтыя вочы... Як кажуць, дзеля такіх момантаў варта жыць. ... І не важна, што змяшчае той ці іншы падарунак.

Пішу для таго, каб выказаць словы падзякі святару нашага касцёла ксяндзу Аляксандру і ўсім парафіянам – удзельнікам акцыі " Мой анёл"– за падтрымку, за разуменне і неабыякавасць да чужога болю, за хвіліны радасці. Дарэчы, ксёндз заўжды першы здымае анёла з ёлкі, тым самым паказвае прыклад вернікам.

***З павагай,***
***Вольга Казлова –***
***парафіянка касцёла НПМ***
***у Верхнядзвінску***



# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк абазначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

*Газета*
*"Каталіцкі Веснік"*
*вул. Савецкая, 1*
*211793*
*г. Глыбокае*
*Віцебскай вобл.*

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 10 рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грыгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч***
***Віктар Мар'янавіч***
***вул. Савецкая, 1***
***211793***
***г. Глыбокае***
***Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

***Рэдакцыя***
*"Каталіцкага Весніка"*

### Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Гора. Як дапамагчы?

**Сёння паразмаўляем пра перажыванне страты. Як дапамагчы чалавеку ў горы? Як распавесці дзецям пра смерць у сям'і?**

**Таццяна Палхоўская**, *псіхолаг*



Тэма з няпростых. Перад тым, як распачаць, усё хадзіла вакол, не магла падступіцца. Складана размаўляць з чалавекам, які страціў самае дарагое. Пры гэтым быць не навязлівым, не задавальваць сваю цікаўнасць, не абясцэньваць страту, не даваць парадаў. Быцьцёплым,падтрымліваць, здольным слухаць (часам доўга, адно і тое ж) і быць побач.

Паспрабуем паглядзець на гэту тэму з розных ракурсаў.

Што перажывае сям'я, якая страціла роднага? Безумоўна, шок, жах, боль, роспач, бездапаможнасць. Вельмі часта да гэтага набору дадаецца пачуццё віны (што не выратавалі, не былі побач, рэдка бачыліся і г.д.).

А яшчэ, як ні дзіўна, сорам. Людзі бянтэжацца ад чужых позіркаў ды хаваюцца ў сваіх дамах (ці ў сабе) ад роспытаў. Самі ж сябе мучаюць пытаннямі: "Як такое магло здарыцца з намі? Чаму гэта адбылося са мной? Чаму ніхто не разумее, як мне дрэнна? Калі ўсё скончыцца?"

Адначасова з гэтым сям'я пачынае раз'ядноўвацца. Людзі часта не ўмеюць падзяляць боль і баяцца сутыкацца з моцнымі пачуццямі.

Бацькі, якія страцілі дзіця, могуць сварыцца і аддаляцца адно ад аднога не таму што ў іх знікаюць пачуцці, а таму што яны думаюць: сужэнец не так востра перажывае здарэнне. Баяцца, што надакучаць сваім ныццём. Гэтыя трывогі могуць быць далёкімі ад рэальнасці, бо блізкі чалавек, хутчэй за ўсё, перажывае нешта падобнае. Такім чынам, людзі адчуваюць сябе самотнымі і пакінутымі ў найбольш складаны перыяд свайго жыцця.

З дзецьмі сітуацыя не лепшая. Некаторыя бацькі прымаюць рашэнне не распавядаць малым пра няшчасце, іншыя тлумачаць пра "адыход", анёлаў і апекуна на Небе. Але далей намагаюцца не ўзгадваць пра памерлага, аберагаючы дзяцей ад суму, а сябе ад балючых успамінаў.

На жаль, такі выбар вядзе да адваротных вынікаў: у сям'і з'яўляецца табуяваная тэма, дзеці адчуваюць напружанне, крыніцы якога не разумеюць, бачаць сумных і нервовых бацькоў і шукаюць магчымасці, як дапамагчы, бо прымаюць сябе за прычыну няшчасця бацькі і маці.

Я рэкамендую найперш шчыра і адкрыта размаўляць са сваімі блізкімі, і асабліва з тымі, хто разам з вамі перажывае страту. Паспрабуйце падзяліцца з роднымі сваімі пачуццямі, страхамі, трывогамі.Паслухайце,якяны пераносяць тое, што адбылося. Дамоўцеся падтрымліваць адно аднаго і не баяцца браць перапынак, калі стоміцеся ад гэтага.

Дзецям варта распавядаць пра смерць роднага. Яны ўсё адно адчуваюць, што ў сям'і нешта адбываецца. Будзе лепш, калі яны пачуюць усё ад блізкіх людзей, той мовай, якой ім будзе зразумела. Стварыце для дзетак атмасферу, у якой яны змогуць задаваць пытанні, спакойна знаёміцца з важнай і непазбежнай часткай жыцця – смерцю.



Стварыце ўласныя рытуалы: наведванне магілак, сумесныя малітвы за памерлага, прагляды здымкаў. Не бойцеся праяўляць сум пры сваіх дзецях і вучыць іх не баяцца складаных эмоцыяў.

Зрэшты, усім будзе прасцей перажыць гора, калі можна пра яго размаўляць. Наша псіхіка мае такую асаблівасць, што чым больш прагаворваць тое, што нам баліць, тым хутчэй боль "перапрацоўваецца" і праходзіць. Таму тактыка перажываць моўчкі, занурыцца ў працу ці адцягваць увагу чым заўгодна, хутчэй, нашкодзіць, прывядзе да "захрасання" болю ўнутры.

Тым жа з нас, каму даводзіцца сутыкацца з чужым горам, трэба памятаць: нам таксама не проста. Мы сутыкаемся з уласнай бездапаможнасцю. Мы не разумеем, як дапамагчы, як не быць лішнімі, навязлівымі і адначасова не пакідаць чалавека ў бядзе.

Думаю, лепш за ўсе быць шчырымі, сказаць пра сваю збянтэжанасць, спытаць, што мы можам зрабіць і прапанаваць сваю дапамогу.

Часцей за ўсё (як я пісала вышэй) нам будуць удзячныя за магчымасць проста паразмаўляць пра здарэнне.

Калі ласка, не абясцэньвайце гора парадамі кшталту: "Не сумуй!", "Жыві далей!", "Што ж ты так перажываеш?" Проста пабудзьце побач з бліжнім у яго горы.

Дзякуй за ўвагу!

# Встречаем праздники с радостью

**Предпраздничная суета. Именно она подтолкнула меня поделиться с вами мыслью о том, что предпраздничное время, да и сами праздники – это не существование на пределе возможностей, поскольку праздники существуют для радости.**

**Марина Ткач**, *магистр психологии*



А у нас порой выходит совсем иначе: мы суетимся, что-то постоянно делаем, делаем и... ни о какой радости от праздников речи не идет вовсе.

Для того, чтобы этот предпраздничный марафон был всё-таки спокойным и радостным, можно сделать следующее...

**Подумайте о том, чего хотите Вы.** Так уж мы устроены, что можем постоянно заботиться о других и учитывать чьи-то желания. Это, конечно, хорошо, но о себе любимых нужно тоже помнить. Вспомните, как часто вы произносите фразу «Я должен». Думаю, бесчисленное количество раз, ведь вы должны, например, купить, приготовить, убрать, приласкать, уделить внимание и т.д. Не спорю, всё перечисленное важно, но, может, стоит заменить фразу «Я должен» на вопрос «Чего хочу я?» Привычные и порой уже безрадостные обязательства всегда можно откорректировать так, чтобы они доставляли удовольствие не только вашим близким, но также и вам. Подумайте, ведь страшного ничего не случится, правда?

**Праздники – это не конец жизни.** Мы привыкли воспринимать любые праздники как некий рубеж, итог, когда нужно успеть переделать массу дел. Желание, конечно, похвальное, но так и до переутомления недалеко. Возьмите лист бумаги и составьте список, на ваш взгляд, необходимых дел, а затем напротив каждого поставьте срочность его выполнения. Думаю, список уменьшится как минимум вдвое. Подобная визуализация также поможет психологически легче воспринять ситуацию и справиться с предстоящим объёмом работы.

**Не зацикливайтесь только на подготовке к празднику.** Постарайтесь не думать постоянно о том, что, где и как сделать или купить. Предпраздничную суету следует «разбавить» встречами с друзьями, общением с коллегами, походами куда-либо, то есть тем, что не будет нести в себе мыслей о предстоящих праздниках.

**Найдите время для близких.** Думаю, у многих возник вопрос: «Где найти это время, когда впереди столько дел?» Согласна, стирка, уборка дома, продумывание праздничного меню, покупка подарков – это важные вещи. Но... подумайте, в праздники к вам не придет, например, санитарная служба и не станет проверять наличие пыли или белизну скатерти. Никто не потребует отчёт о подарках и меню... Да и каково будет вашим родным жить, скажем так, в «стерильной квартире», когда ничего нельзя сделать, потому что вы уже убрали везде! Если всё-таки время найти не удаётся, то лучше приобщить к предпраздничным делам всю вашу семью. И пусть у них будет получаться не так хорошо, как у вас, зато вы будете вместе, у вас появится возможность лучше узнать, чем живут ваши дети. Может, вы откроете в своём муже или своей жене неизвестные вам таланты и способности. Именно это единение и создаст ту радостную, праздничную атмосферу, где нет места ссорам, конфликтам и обидам.

**Не забывайте про духовную подготовку.** Сходите в костёл, найдите время на молитву и размышления для того, чтобы в душе зажёгся огонёк Рождества. И тогда и ёлка, и подарки, и рождественские ясли будут наполнены смыслом.

Счастливый человек способен делиться счастьем и радостью с другими, поэтому не забывайте об этом в предпраздничной суматохе.

Надеюсь, всё вышесказанное поможет встретить и провести праздники с радостью.

Пользуясь случаем, хочу поздравить всех читателей «Католического Вестника» с Рождеством и наступающим Новым годом. Мира, добра, благополучия, душевного спокойствия и психологического комфорта вам и вашим близким! Радостных праздников!



# Біскуп прыняў удзел у перадкаляднай вечарыне і зноў заспяваў песню пад гітару

**У Віцебскай абласной бібліятэцы 8 снежня прайшла традыцыйная перадкалядная вечарына "Ціхая ноч, Святая ноч". Як і летась, у імпрэзе браў удзел біскуп Віцебскі Алег Буткевіч. Яго Эксцэленцыя зноў узяўся за гітару і атрымаў у выніку шмат гарачых апладысментаў.**

■**Зміцер Міраш**, *vitebskspring.org*

Адкрываючы вечарыну, кіраўнік Віцебскай дыяцэзіі зазначыў, што такія сустрэчы даюць магчымасць кожнаму чалавеку, незалежна ад веравызнання, глыбей усвядоміць сутнасць нашага вялікага свята – Божага Нараджэння.

"Гэта магчымасць, каб мы паспрабавалі сёння ў нашым з вамі жыцці, штораз усё больш забеганым і запрацаваным, глыбей паглядзець на тую вялікую таямніцу, якую прапануе нам Бог. Побач з гэтым прыгожым навагоднім светам – убачыць яшчэ і тую вялікую духоўную цеплыню, вялікую глыбокую Божую любоў, якую Ён прапануе нам у сваім Сыне", – сказаў біскуп Віцебскі.

Калядныя песні на вечарыне выканалі хор узорнай вакальнай студыі "Асоль" і хор парафіі Святой Барбары "Гасанна".

Чыталі вершы паэтка Людміла Сіманёнак, вернік парафіі Езуса Міласэрнага Уладзіслаў Каржанеўскі, верніца грэка-каталіцкай парафіі Уваскрасення Хрыстовага Наталля Плешчанка ды іншыя. А самым юным артыстам быў 6-гадовы Сцяпан Серабро.

Сёлета перадкалядная імпрэза ў абласной бібліятэцы прыпала на ўрачыстасць Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Дзевы Марыі. Таму біскуп Віцебскі выбраў для выканання песню, прысвечаную Маці Божай – "Ты за сабою нас вядзеш".

Напрыканцы сустрэчы біскуп Алег Буткевіч прэзентаваў новы каляндар на 2019 год, прысвечаны 20-годдзю Віцебскай дыяцэзіі (была ўтвораная 13 кастрычніка 1999 года). На задняй старонцы вокладкі размешчанае гістарычнае фота касцёла святога Антонія ў Віцебску, надзею на аднаўленне якога католікі, паводле біскупа, не трацяць. Каляндар у якасці падарунку атрымалі ўсе ўдзельнікі вечарыны.

Арганізатарам вечарыны "Ціхая ноч, Святая ноч" былі Віцебская абласная бібліятэка і Віцебская дыяцэзія. У якасці вядоўцы выступіў вядомы беларускі пісьменнік і наш зямляк Франц Сіўко.





# Рух "Маці ў малітве" ў Глыбокім адзначыў свой першы дзень нараджэння

**10 снежня 2018 года малітоўны рух "Маці ў малітве" пры парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім адзначыў свой першы дзень нараджэння. З гэтай нагоды ў касцёле адбылася паўгадзінная адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту і св. Імша.**

■**Марына Сінкевіч**, *тэкст і фота*

Напачатку Эўхарыстыі пробашч кс. Мікалай Цихановіч павіншаваў жанчынудзельніц і маліўся ў інтэнцыі маці і іх дзяцей, а таксама падзякаваў Богу за гэту прыгожую і вельмі патрэбную супольнасць.

Падчас гаміліі святар падкрэсліў тры галоўныя думкі, якімі палічыў патрэбным падзяліцца з жанчынамі. "Калі паўстае супольнасць у Касцёле, то паўстае яна з натхнення Духа Святога. Што вы сабраліся, гэта не толькі справа чалавечая, але Дух Святы згуртаваў сэрцы маці, каб трываць супольна на малітве. Сумейце разам перажываць праблемы з дзецьмі. Супольнасць маці – гэта ўзаемападтрымка і ў будучыні ўзаемасведчанне сэрцаў. Вы павінны развівацца!

Хай вас не здзіўляе, што сатана пачынае перашкаджаць. Бо вы робіце добрую справу, і злы дух не спіць. Страх паралізуе і палохае, таму трывайце на супольнай малітве і не апускайце рукі. А ў малітве заўсёды дадавайце: "Не мая воля, Ойча, але Твая воля няхай будзе". Рыхтуйцеся да цяжкасцяў і выпрабаванняў, да таго, што адразу не будзе плёнаў малітвы. Дзейнасць Бога на вашу малітву вы ўбачыце толькі з перспектывы часу.

Запрашайце Найсвяцейшую Панну Марыю на сваю малітву. Яна адзіная Маці, Якая поўнасцю рэалізавала сваё мацярынства, давяраючы Богу Сваё дзіця".

Кс. Мікалай пажадаў, каб на святкаванні 5-й гадавіны прысутнічалі ўжо не толькі маці, але і іх дзеці, за якіх жанчыны так шчыра моляцца.







# Як знайсці сваё месца ў Касцёле? Паразважаем разам

**Для нас, сучаснай моладзі, свет прапануе вельмі шмат розных варыянтаў прымянення сваіх сілаў: розныя хоббі, заняткі, семінары і трэнінгі па самаўдасканаленні, спартыўныя заняткі, інтэлектуальныя гульні і г.д. Каб быць паспяховым і адчуваць сябе неад'емнай часткай грамадства, мусіш ісці ў нагу з часам, а гэта значыць, шмат паспяваць і знайсці сваё месца ў жыцці, найлепшае прымяненне сваіх талентаў.**

**Вікторыя Колзун**



А што ў Касцёле? Ці важна сучаснай моладзі адчуваць сябе неад'емнай часткай Касцёла? І як знайсці сваё месца ў Касцёле? Пра гэта я спытала ў сваіх сяброў і дзялюся іх думкамі таксама з вамі, шаноўныя чытачы "Каталіцкага Весніка".



**Анастасія, студэнтка:**

– Для мяне выраз "знайсці сваё месца" азначае знайсці служэнне, якім ты можаш праслаўляць Айца. Ці знайшла я сваё? На дадзены момант – "так", але ў жыцці пастаянна адбываюцца змены, і, магчыма, праз некалькі гадоў маё служэнне будзе іншым. Цяпер Госпад мне дае магчымасць праслаўляць Яго голасам (менавіта да гэтай часткі Яго Цела я сябе адношу на дадзены момант). Госпад мне дае магчымасць мець зносіны з вялікай колькасцю людзей, якія, наведваючы касцёл і святую Імшу, дрэнна знаёмыя з Езусам і Нябесным Айцом. Валодаючы тымі ведамі, якія мне ўдалося атрымаць праз сяброў і святароў, маючы вопыт дзеяння Бога ў маім жыцці, я імкнуся дзяліцца гэтым з блізкімі.

Як знайсці сваё месца? Падумай, можа ў цябе добрыя музычныя дадзеныя (спяваеш і / або іграеш на музычным інструменце), гэтым ты можаш служыць у хоры, напрыклад, бо ў касцёле ёсць і моладзевая Імша, калі песні для службы выбіраюць і выконваюць студэнты. Калі ў гэтым ты сябе не знайшоў, не перажывай. Госпад дасць табе велізарную колькасць магчымасцяў для служэння, калі тваё сэрца будзе гэтым гарэць. Бо Езус Сам сказаў: "Кожны, хто просіць, – атрымлівае, хто шукае, – знаходзіць, і хто стукае, таму будзе адчынена" (Евангелле ад Лукі 11, 10).

І памятай яшчэ адно: Касцёл – гэта не месца, гэта ўсе мы. Усе мы з'яўляемся целам Хрыста, а значыць, служачы разам, маем магчымасць бачыць больш Яго бязмежную любоў, якую Айцец пралівае на кожнага, і дзяліцца гэтым, такім чынам умацоўваючы адносіны даверу з Нябесным Айцом і пазбаўляючыся ўсялякага страху, які можа стаць паміж вамі.



**Ірына, студэнтка:**

– Ці знайшла сваё месца ў касцёле? На сённяшні дзень дакладна – так, я знайшла сваё месца ў касцёле! Цешуся і дзякую Госпаду, што на першым курсе прывёў мяне ў супольнасць касцёла Св. Барбары. Тут я ўбачыла, што, напрыклад, святая Імша – нешта большае, чым толькі сустрэча з Езусам, гэта таксама сустрэча людзей, якія ведаюць адно аднаго. Ці адчуваю сябе часткай Цела Хрыста? Часам так, часам не. Але гэта толькі, калі разглядаць узровень пачуццяў. Калі зазірнуць крышку глыбей, магу без сумненняў сказаць, што я з'яўляюся часткай Цела Хрыста! Не толькі з'яўляюся, але і моцна хачу Ёю быць! Для таго, каб знайсці сваё месца, патрэбныя адвага і жаданне. Госпад кожнага чалавека надзяліў дарамі і талентамі. Няма двух людзей, якія былі б падобныя адно да аднаго, а гэта азначае, што кожны – гэта ўнікальнае стварэнне Айца!

Спачатку можа падавацца, што часткай Цела могуць з'яўляцца толькі тыя, хто добра спявае ці грае, а астатнія крыху збоку. Але не! Можа, ты маеш прыгожую ўсмешку ці ўмееш слухаць іншага, гэта таксама тое, што патрэбна кожнай супольнасці. Адвага патрэбная, каб паглядзець на сябе, падумаць, якой часткай я магу быць?! А яшчэ не шукаць ідэальнага касцёла, ідэальнай супольнасці, ідэальных людзей ці ідэальнага святара. Памятаць, што мы ўсе людзі і маем схільнасці памыляцца! Самае галоўнае, што нашыя адносіны аб'ядноўвае Святы Дух, а разам мы можам хутчэй, чым сам-насам, развівацца, быць патрымкай адно для аднаго, служыць людзям, спазнаваць веру і адчуваць сябе шчаслівымі і патрэбнымі!



**Аляксей, псіхолаг:**

– Ці знайшоў сваё месца ў Касцёле? Так. Мабыць, знайшоў!

Як ты гэта зрабіў, спытаеш ты. Што ж... ТОП-3 лайфхакі ад Аляксея, як знайсці сваё месца:

1. Працягвай шукаць.

Галоўны арыенцір для мяне – пастаянныя пошукі Бога, імкненне пазнаваць Яго і Яго волю. Мае пошукі прывялі мяне да таго, што я слухаю і размаўляю з людзьмі. Разам молімся, чытаем Біблію, разважаем. Часам дапамагаю арганізоўваць сустрэчы, розныя мерапрыемствы. Не ведаю, дзе буду заўтра. Магчыма, формы майго служэння зменяцца. Але пошукі – не.

2. Не трэба подзвігаў.

Асабліва гэта датычыцца хлопцаў. Часта нам хочацца "гуляць па-буйному". Рабіць штосьці сапраўды значнае, прыкметнае... І пакуль мы занятыя падрыхтоўкай нашага подзвігу, траціцца багата часу. Праблема тут яшчэ ў тым, што часам нашае служэнне становіцца больш патрэбнае нам, чым бліжнім.

Зараз я перакананы, што чалавеку часта не трэба шмат. Часам дастаткова павітацца і шчыра ўсміхнуцца, каб зрабіць яго крыху больш шчаслівым.

3. Звярні ўвагу на тое, што табе падабаецца рабіць.

Веру, што Госпад надзяліў кожнага талентамі, якімі мы і можам праслаўляць Яго. І падказкай у пошуку гэтых талентаў з'яўляецца наш інтарэс. Мне заўсёды падабалася сцэна. Атрымліваю шмат задавальнення, калі мне ўдаецца данесці людзям нешта важнае простай чалавечай мовай так, каб было цікава. З дапамогай гэтага майго захаплення ў мяне ёсць магчымасць распавядаць людзям пра Бога.

Спяваеш, танчыш або вышываеш крыжыкам – гэта не важна. Кожным талентам можна служыць.



**Святлана, студэнтка:**

– Так, я адчуваю сябе часткай Цела Хрыста, але так было незаўсёды. У дзяцінстве я вельмі перажывала, што не ўмею прыгожа спяваць і не магу гэтым служыць на Імшы і падчас розных малітваў. Я лічыла сябе непатрэбнай. Езус аздаравіў мае думкі і дапамог на гэтую сітуацыю паглядзець па-новаму. Так, я не спяваю, але ведаю, што Госпад стварыў мяне цудоўна. Ён даў мне магчымасць лёгка пачынаць адносіны і знаёміцца з новымі людзьмі. Гэта адбываецца само сабой, вельмі часта я гэтага не заўважаю, а праз пэўны час лаўлю сябе на думцы, што ўжо балбачу з новым чалавекам. Адзін мой знаёмы дапамог мне ўбачыць, што гэта выдатна. У нас у парафіі праходзяць сустрэчы моладзі, куды часта прыходзяць людзі, якія ніколі не ведаюць. Я проста размаўляю з імі, дзялюся аповядамі пра жыццё, распавядаю, што робіць Езус у маім жыцці кожны дзень, проста праводжу з імі час. І гэта ў нейкай меры таксама служэнне.

А яшчэ я з'яўляюся аніматарам і дапамагаю праводзіць розныя сустрэчы. Я ў захапленні, ад таго, што раблю. Як знайсці сваё месца ў касцёле? Я думаю, галоўнае зразумець, што ты важны, важны і пакліканы быць часткай Цела Хрыста. Калі ты спяваеш, іграеш на якім-небудзь інструменце – у кожным касцёле ёсць невялікі хор, развівайся і служы Госпаду. Калі ты не спяваеш, не страшна. Павер, Госпад надзяліў цябе іншымі талентамі. Твая прысутнасць, тваё сведчанне, твая падтрымка, твая ўсмешка вельмі-вельмі каштоўныя. І ніхто ніколі не ведае, праз што іншы чалавек спазнае любоў Айца Нябеснага. Магчыма, твая ўсмешка дазволіць сэрцу іншага чалавека біцца мацней, і тады ён паверыць, што не адзін, бо яго любіць Бог!

## Ці атрымліваецца Вам бываць на Раратняй св. Імшы?



- Так, хаджу рэгулярна – 148 адказаў
- Быў (-ла) некалькі разоў – 76 адказаў
- Не, але збіраюся пайсці – 35 адказаў
- Рараты? А што гэта? – 23 адказы
- Іншае. Адказ у каментары ў сацыяльных сетках – 15 адказаў

**Усяго 297 адказаў**

**Каментарый УКантакце**




**Валерий Петковский**

Сам кожную раніцу напрацягу Адвэнта дома раблю «хатнія» Рараты. Коратка, ад душы і з густам.

# У чым галоўная праблема Касцёла ў Беларусі?

## Гутарка са святаром

**Такое пытанне задаў на пачатку снежня ў Фэйсбуку ксёндз Вячаслаў Барок, пробашч касцёла Святога Антонія ў Віцебску.**



За некалькі дзён на гэту тэму ўжо выказалася некалькі соцень чалавек. Прычым бралі ўдзел у абмеркаванні не толькі католікі, але і праваслаўныя, і атэісты. Такая колькасць адказаў сведчыць пра тое, што людзям неабыякавы лёс Касцёла ў нашай краіне.

У адказах называліся розныя праблемы: гэта і слабая пазіцыя ў адстойванні сваіх інтарэсаў, і тое, што большасць беларускіх католікаў амаль не верыць у Бога. Праблему людзі бачаць і ў польскіх святарах, і ў праваслаўнай царкве, маўляў, мы ж канкурэнты, некаторыя ў якасці праблемы называюць слабую падрыхтоўку святароў, камусьці на Імшы гітара перашкаджае, нехта хоча набажэнства на лацінскай мове. І гэта далёка не ўсе праблемы, што хвалююць людзей.

Знайшліся і такія вернікі, якія праблем у беларускім Касцёле не бачаць, лічаць, што ў ім усё добра. Або гавораць, што гэта не павінна абмяркоўвацца ў сацыяльных сетках. Ксёндз Вячаслаў з гэтым не пагаджаецца. Бо калі праблему своечасова не выявіць, яна перарасце ў крызіс. Святар прыводзіць прыклад Папы Францішка, які заўсёды гатовы да дыялогу.

На гэту тэму "Каталіцкі Веснік" пагутарыў з ініцыятарам гэтага апытання кс. Вячаславам Барком.

**– Што падштурхнула Вас задаць такое пытанне ў Фэйсбуку?**

– Любоў да Касцёла!

**– Якія высновы Вы зрабілі, прааналізаваўшы адказы людзей?**

– Мне падабаецца ўжо тое, як гэта ацанілі самі каментатары па колькасці сабраных лайкаў. Я лічу, што гэта цалкам адпавядае духу Евангелля, такі погляд на Касцёл і яго праблемы.

Галоўную выснову, якую я зрабіў як той, хто не толькі мае гонар належаць да Касцёла, але прымаць таксама ўдзел у яго іерархічнай структуры: мы недаацэньваем той Касцёл, да якога належым. Хай мяне паправяць біскупы, калі гэта не так.

Па-першае, у Касцёле Дух Святы ёсць, і Ён дзейнічае. І выказванні людзей свецкіх, якія да гэтага Касцёла належаць, яшчэ раз гэта падкрэслівае. Бо яны выказваюць свае меркаванні, адораныя Духам Святым. Па-другое, мы як Касцёл, як яго іерархічная структура пакліканыя для таго, каб прапаведаваць Божае Слова. Але мы ніколі не будзем добрымі прапаведнікамі Божага Слова, калі не навучымся чуць тых, каму мы прапаведуем.

**– На Ваш погляд, якая зараз самая вялікая праблема Касцёла ў Беларусі?**

– Такіх праблем шмат. Але, як на мой погляд, вельмі моцна адчуваецца недахоп агульнай візіі Касцёла, так як мы гэты Касцёл уяўляем. Часта мы яго трактуем вельмі прымітыўна, а хацелася, каб мы навучыліся глядзець на Касцёл таксама, як на яго глядзеў Хрыстос, калі Ён яго засноўваў. Вось гэтай візіі на Касцёл мы, на жаль, не маем. Гэта адчуваецца вельмі моцна.

А пасля ўжо ідуць усе іншыя праблемы. Бо як няма гэтага агульнага бачання развіцця Касцёла, паўляюцца і фінансавыя праблемы, і праблемы з моладдзю, і праблемы з Літургіяй і гэтак далей. Таму найперш мы павінны мець нейкую агульную візію.

Што гэта такое? Гэта план дзеянняў. А так атрымліваецца, што мы ў Беларусі як Касцёл тры дзясяткі гадоў таму атрымалі рэлігійную свабоду, мы выйшлі з катакомбаў, а ў якім кірунку далей ісці, да гэтай пары не разумеем.

Так, асобныя людзі гэта разумеюць, але хацелася б, каб гэтае разуменне было прадстаўлена ўсім нам. І паказана такім чынам, каб нават я, які абмежаваны ў сваіх разважаннях, мог зразумець агульную візію Касцёла.

**– Зараз у Еўропе зачыняюцца касцёлы, зніжаецца колькасць вернікаў. На Вашу думку, ці ёсць перспектыва пазбегнуць гэтага ў Беларусі?**

– Ці ёсць перспектыва асягнуць такі высокі ўзровень духоўнага жыцця, які мае Еўропа? Я б так ставіў гэтае пытанне. Бо калі я ацэньваю ўзровень Касцёла ў Еўропе, узровень нашага Касцёла, то якраз мне і хочацца паставіць пытанне такім чынам.

Мы прызвычаіліся казаць, што ў Еўропе ўсё кепска, у Еўропе няма духоўнага жыцця. Вядома, Еўропа – гэта не адзін чалавек, і нельга яе ацэньваць адназначна. Я таксама бываў там і бачыў яе і слабыя, і моцныя бакі. Таму з упэўненасцю магу сказаць, што там і Касцёл, і хрысціянскі дух вельмі моцныя. І для Беларусі ўзор Еўропы – гэта будучыня, светлая будучыня ў далёкай перспектыве.

Мы можам звярнуцца да статыстыкі, якая паказвае адсотак людзей, абыякава настаўленых да рэлігіі ў самой Беларусі і ў Еўропе. Вядома, некаторыя краіны нас у гэтым абганяюць. Калі браць прыклад Чэхіі, Эстоніі ці Швецыі. Але гэта, хутчэй, выключэнне, чым агульная норма.

Мне найбольш падабаецца, калі мы пачынаем крытыкаваць Еўропу і іх Касцёл. І мы як католікі гэта робім, і Праваслаўная Царква, але тым не менш нияк не вагаемся, калі бяром ад іх дапамогу. І Праваслаўная Царква вельмі часта карыстаецца дапамогай Каталіцкага Касцёла ў Еўропе, у Германіі, напрыклад, ці Італіі, і мы таксама. І вось глядзіце, дзіўны парадокс: мы бяром грошы іхнія і кажам, што там дрэнны ўзровень рэлігійнасці. Больш за тое, іх хочам павучыць духоўнасці. Але калі ў іх ёсць ахвярнасць, то ў іх ёсць і духоўнасць. Там сапраўды ёсць людзі, якія маюць вялікую духоўнасць, яны глыбокія вернікі, таму давайце належным чынам ацэньваць той вопыт Касцёла, які маюць яны.

Я бачу, вядома, што з рэлігійнасцю Еўропа зараз перажывае пэўныя выпрабаванні, працэнт вернікаў змяншаецца, але трагедыі тут няма. Там ёсць адукацыя святароў, іх развіццё і ёсць Касцёл, які дзейнічае, які дынамічны. Ёсць духоўныя семінарыі, узровень каторых значна вышэйшы, чым узровень нашых семінарый.

Таму я б не асмельваўся задаваць пытанне, як нам пазбегнуць еўрапейскай бездухоўнасці, я б задаваў яго такім чынам: як нам убачыць той каштоўны вопыт еўрапейскага Касцёла, каб яго выкарыстаць у нас? Каб быць здольнымі не толькі прымаць іх матэрыяльную дапамогу, але таксама і духоўную падтрымку з Еўропы. А духоўнасць у іх якраз на высокім узроўні.

Я кажу пра Касцёл, а не пра тыя бязбожныя плыні, якія там, на жаль, ёсць. Але гэтага ўсяго нядобрага ў нас значна больш, чым у іх. Колькі ў нас абортаў, колькі суіцыдаў, які працэнт п'янства?! І дзе тады наша духоўнасць?!

*Гутарыў* ***Зміцер Лупач***



# Божае Нараджэнне

**Правер свае веды ў новым Калядным тэсце "Каталіцкага Весніка".**

**1** Арханёл Габрыэль абвясціў пра нараджэнне каго?



**А.** Дзевы Марыі
**Б.** Езуса Хрыста
**В.** Апостала Паўла

**2** Езус Хрыстус нарадзіўся:



**А.** У Бэтлееме
**Б.** У Ерусаліме
**В.** У Бэтаніі

**3** Каму спачатку анёлы прынеслі вестку пра нараджэнне Хрыста?



**А.** Іраду
**Б.** Мудрацам
**В.** Пастушкам

**4** Якая зорка павінна была ўказаць мудрацам месца Нараджэння Езуса Хрыста?



**А.** Палярная зорка
**Б.** Бетэльгейзе
**В.** Бэтлеемская зорка

**5** Чаму Ірад хацеў даведацца, дзе нарадзіўся Езус?



**А.** Каб пакланіцца Яму
**Б.** Хацеў саступіць Яму свой трон
**В.** Каб забіць Яго

**6** Каму першаму Бог прадказаў, што сярод яго нашчадкаў будзе Збаўца свету?



**А.** Адаму і Еве
**Б.** Абрагаму
**В.** Давіду

**7** У адным з прароцтваў пра нараджэнне Хрыста было сказана, што будзе дадзена яму імя Эмануэль. Што азначае гэтае імя?




**А.** Бог збаўляе
**Б.** Месія
**В.** З намі Бог

**8** На які дзень Дзева Марыя прынесла немаўля Езуса ў храм?



**А.** На саракавы дзень
**Б.** На сямідзясяты дзень
**В.** Пасля Пяцідзясятніцы

*Падрыхтавала* ***Вікторыя Колзун***

**Правільныя адказы на тэст глядзіце на старонцы 12**

# Каляндар на студзень




**1 студзеня–Урачыстасць Святой Багародзіцы Марыі.**

Дзева Марыя лічыцца самай вялікай хрысціянскай святой. Марыя нарадзіла Езуса пасля беззаганнага зачацця, аднак і сама Яна была таксама плёнам беззаганнага зачацця. Гэты факт каталіцкія тэолагі разглядаюць як лагічную ўмову, якая падрыхтавала Яе да ролі Маці Збаўцы. Тэалагічная дактрына Рыма-Каталіцкага касцёла прызнае той факт, што Дзева Марыя з'яўляецца пасярэдніцай паміж Езусам Хрыстом і ўсім чалавечым родам, бо Яна – Маці Збаўцы, праз Яе прыйшла ласка да людзей.

**2 студзеня – Успамін св. Базыля Вялікага і Грыгорыя Назіянзскага, біскупаў і дактароў Касцёла.**

Святыя Базыль (Васіль) Вялікі і Грыгорый Назіянзскі нарадзіліся каля 330 г. у Кападокіі (на тэрыторыі сучаснай Турцыі) і паходзілі з хрысціянскіх сем'яў. Часта ў хрысціянскай літаратуры, разам са сваім сябрам Грыгорыем Ніскім, гэтыя святыя вядомыя як айцы-кападакійцы. Гэта зборная назва айцоў Касцёла другой паловы IV стагоддзя, якія завяршылі фармальна-дыялектычную апрацоўку дагмата аб Святой Тройцы.

Базыль і Грыгорый былі вельмі адукаванымі людзьмі. Яны пазнаёміліся ў Афінах, дзе разам вучыліся. Згодна з тагачаснымі звычаямі, хрост прынялі ўжо ў сталым узросце, маючы каля трыццаці гадоў, пасля чаго разам адасобіліся ў пустыні і склалі падрабязны звод правілаў для манахаў. Ідэалам манаскага жыцця, паводле Базыля Вялікага, была братэрская супольнасць, якая жыве аскетызмам, медытацыяй, а таксама прыслугоўвае Касцёлу праз навучанне веры (адкрыванне і спасціганне Божага Аб'яўлення, абарона супраць ерасяў), пастырскай і дабрачыннай дзейнасцю. Святы Базыль апрацаваў старажытныя літургічныя тэксты і склаў літургію (чын св. Базыля Вялікага), якая да гэтага часу служыцца ва ўсходніх Цэрквах у вызначаныя дні.

Праз пэўны час абодва сталі святарамі, а пазней – біскупамі: Базыль – у Кесарыі Кападоцкай, а Грыгорый – у Назіянзе. Да таго ж Грыгорый, выбраны духавенствам і народам біскупам Канстанцінопаля, некалькі месяцаў займаў гэтую кафедру, але вырашыў адмовіцца ад яе і вярнуўся ў Назіянз.

Грыгорый быў вялікім багасловам, паэтам і гуманістам. Да нашых часоў захавалася 45 казанняў, 245 лістоў, 507 паэтычных твораў святога Грыгорыя. Ён з'яўляецца заступнікам паэтаў і базыльянаў. На Усходзе Грыгорыя называюць "Боскім", а таксама "Багасловам". Магчыма, нездарма ўспамін святога Грыгорыя адбываецца разам, у адзін дзень, з успамінам святога Базыля, бо як на зямлі аб'ядноўвала іх сяброўства ў Хрысце, так і на нябёсах яны падзяляюць супольную хвалу.





**6 студзеня – Урачыстасць Аб'яўлення Пана (Тры Каралі).**

Касцёл успамінае ў гэты дзень вешчуноў, што прынеслі Дзіцятку Езусу свае дары: золата, ладан і смірну. Касцельная традыцыя называе гэтых вешчуноў таксама каралямі (адсюль іншая назва свята – Тры Каралі), а іх пакланенне сімвалізуе пачатак Божага Аб'яўлення язычніцкім народам, прадстаўнікамі якіх яны былі. Колькі дакладна было ў Бэтлееме вешчуноў, біблейская гісторыя не гаворыць, але свету вядомыя ўсяго тры дары-скарбы, і таму хрысціяне здаўна лічаць, што вешчуноў было таксама трое. Пазней традыцыя, абапіраючыся на апакрыфічнае Евангелле IV ст., называе нават іх імёны – Каспар, Мельхіёр і Бальтазар – і падрабязна апісвае іх выгляд. У гэты дзень прынята асвячаць золата, кадзіла, міру і крэйду, якой потым пазначаюцца дзверы жылля, пішуць на іх актуальны год і першыя літары надпісу «Christus mansionem benedicat", што азначае "Хрыстус бласлаўляе гэты дом": С+М+В+2019.



**13 студзеня – свята Хросту Пана.**

У нядзелю пасля ўрачыстасці Аб'яўлення Пана Касцёл адзначае свята Хросту Пана, якім па традыцыі завяршаецца перыяд Божага Нараджэння. У Евангеллі паводле Мацвея апавядаецца, што Езус прыйшоў з Галілеі над Іарданам да св. Яна, каб прыняць хрост ад яго. Але Ян спыніў Езуса, прамовіўшы: "Гэта мне трэба хрысціцца ад Цябе". Аднак Езус хацеў выканаць усё тое, што было справядліва. Калі Езус выйшаў з вады, нябёсы адкрыліся і Дух Святы ў абліччы голуба сышоў на Яго, а голас з неба прамовіў: "Ты Сын Мой умілаваны, Цябе ўпадабаў Я" (пар. Лк 3, 21–22). Падзея Хросту Езуса стала таксама першым у гісторыі выпадкам аб'яўлення ўсёй Святой Тройцы ў бачных постацях (трынітарная эпіфанія), калі Бог Айцец прамаўляе, Сын Божы існуе ў чалавечай постаці, а Дух Святы з'яўляецца ў абліччы голуба.

*Падрыхтавала*
***Вікторыя Колзун***

**На студзень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і гадавіны святарскага пасвячэння ў наступных святароў і біскупаў:**

**3 студзеня** – **дзень нараджэння** адзначаюць **а. Анджэй Юхневіч ОМІ** *(Шуміліна)* і **кс. Аляксандр Грыцкевіч** *(Верхнядзвінск)*;

**4 студзеня** – **дзень нараджэння** адзначае **а. Станіслаў Памыкала SJ** *(Віцебск)*;

**6 студзеня** – **дзень нараджэння** адзначае **ксёндз-канонік Вячаслаў Барок** *(Віцебск)*;

**7 студзеня** – **дзень нараджэння** адзначае **ксёндз-канонік Павел Кнурэк** *(Віцебск)*;

**12 студзеня** – **дзень святарскага пасвячэння** адзначае **кс. Андрэй Таўрук** *(Мёры)*;

**18 студзеня** – **дзень біскупскай сакры** адзначае **біскуп Алег Буткевіч**;

**19 студзеня** – **імяніны** адзначаюць **кс. Генадзь Ляўкоў** *(Дрысвяты)*, **кс. Дзмітрый Рацько** *(Празарокі)*, **кс. Генадзь Рэйшаль** *(Шаркаўшчына)*;

**21 студзеня** – **дзень нараджэння** адзначае **брат Валерый Кунгер OFMCap** *(Докшыцы)*; **імяніны** адзначае а. Яраслаў Банасяк OFMConv *(Удзела)*;

**27 студзеня** – **дзень нараджэння** адзначае **ксёндз-пралат Аляксандр Рагіня** *(Чад)*;

**29 студзеня** – **імяніны** адзначаюць **ксёндз-канонік Валерый Орсік** *(Орша)* і **брат Валерый Кунгер OFMCap** *(Докшыцы)*;

**31 студзеня** – **дзень нараджэння** адзначае **кс. Юрый Жаўняровіч** *(Ахрэмаўцы)*.

*Падрыхтаваў*
***Зміцер Лупач***

# Ці можа быць каталік чальцом БРСМ?

*“Хвала Хрысту! Маю пытанне пра арганізацыю БРСМ. Апошнім часам некалькі святароў выказваліся, што каталікі не павінны належаць да БРСМ. Сама арганізацыя на пытанне, у чым заключаецца яе правапераемнасць ад камсамолу, адаслала шукаць адказ у адкрытым доступе. БРСМ святкуе дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі. Хацелася б пачуць адказ біскупаў (або хаця б аднаго з біскупаў) на пытанне, ці можа каталік(свецкі або духоўны) уваходзіць у склад БРСМ і ці можа быць якім-небудзь “ганаровым чальцом БРСМ”, не ўступаючы ў яго афіцыйна?”*

*Зміцер*

**На пытанне адказвае айцец Аркадзь Куляха OCD:**

– Дарагі Зміцер! Вялікі дзякуй за пытанне, якое, магчыма, цікавіць таксама іншых вернікаў Каталіцкага Касцёла ў Беларусі. Дзеля паўнейшага адказу неабходна закрануць некаторыя аспекты хрысціянскай антрапалогіі, што, на першы погляд, можа падацца лішнім, аднак, у маім разуменні, дапаможа чытачам у вырашэнні не толькі пытання, пастаўленага Вамі, але таксама і падобных праблем у будучыні. Паколькі пытанне датычыць непасрэдна прыналежнасці да БРСМ, адказ будзе сканцэнтраваны менавіта на гэтым аспекце.

## Удзел вернікаў у грамадскім жыцці

Каталіцкі Касцёл навучае, што грамадзяне павінны, наколькі гэта магчыма, прымаць актыўны ўдзел у грамадскім жыцці (пар. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, 1915). Спосабы і формы ўдзелу могуць быць розныя, у залежнасці ад краіны, яе культуры, а таксама гістарычных, геапалітычных ды іншых фактараў. Заўсёды, аднак, хрысціяне пакліканыя самім Богам да адказнасці за справы супольнасці, у якой жывуць. Такое пакліканне вынікае з самога факту стварэння чалавека як сацыяльнай асобы, надзеленай розумам, свабоднай воляй і годнасцю Божага дзіцяці. Сталы чалавек, незалежна ад веры, павінен браць на сябе адказнасць за ўсе сферы жыцця. Не толькі прыватнага ці сямейнага, але і за працоўную дзейнасць, грамадскую актыўнасць, а таксама за культурнае і палітычнае вымярэнне супольнасці свайго народа, дзяржавы і свету. Падобная актыўнасць вядзе да любові да Радзімы, што выражаецца ў патрыятызме грамадзян і жыхароў дадзенай краіны, а таксама ва ўзаемнай павазе, пашане і любові суграмадзян, якіх хрысціяне называюць ды лічаць сёстрамі і братамі.

Пажадана, каб грамадзяне мелі магчымасць і жаданне фарміраваць адпаведныя погляды адносна сваёй Айчыны ўжо з самага дзяцінства. Каталіцкі Касцёл сцвярджае, што “заслугоўвае пахвалы парадак дзейнасці тых народаў, дзе значная частка грамадзян удзельнічае ў грамадскім жыцці ва ўмовах сапраўднай свабоды” (Пастырская канстытуцыя пра Касцёл у сучасным свеце *Gaudium et spes*, 31). Ужо ў старажытнасці хрысціяне разумелі, што ў справах грамадскага жыцця яны не адрозніваюцца ад іншых людзей і павінны імкнуцца сумленна выконваць свае абавязкі і любіць усіх людзей (пар. *Пасланне да Дыягнета*, V). Такім чынам, хрысціянін павінен удзельнічаць даступнымі сабе спосабамі ў жыцці свайго народа, дзяржавы ды ў агульнасці ўсёй чалавечай сям'і, прытрымліваючыся маральных і рэлігійных прынцыпаў, якім навучае Касцёл, што абапіраецца на Божае Аб'яўленне і натуральны закон, каб павялічыць агульнае дабро. Каштоўнай крыніцай фарміравання поглядаў вернікаў можа быць даступны ў інтэрнэце кампендый сацыяльнага вучэння Касцёла.

## Сумленне – месца маральных выбараў

Кожны чалавек атрымаў ад Бога дар розуму, свабодную волю і сумленне – “самы таемны асяродак чалавека і яго святыня, дзе ён знаходзіцца сам-насам з Богам, голас Якога гучыць у глыбіні яго душы” (пар. Пастырская канстытуцыя пра Касцёл у сучасным свеце *Gaudium et spes*, 16). Менавіта ў сумленні кожны з нас здзяйсняе маральны выбар, дзякуючы якому выражае сябе перад Богам, іншымі людзьмі і перад светам. Касцёл навучае, што “праз вернасць сумленню хрысціяне яднаюцца з іншымі людзьмі ў пошуку праўды і згоднага з праўдай вырашэння шматлікіх маральных праблем, якія ўзнікаюць у жыцці асобных людзей і ў грамадскім суіснаванні” (Тамсама). Сумленне не стварае маральных нормаў, але з'яўляецца іх ахоўнікам і сведкам, таму вернасць яго голасу вядзе чалавечую асобу да ажыццяўлення свайго паклікання і сужыцця з іншымі людзьмі ў гармоніі. Менавіта так ролю сумлення разумее Касцёл, які падкрэслівае, што ў глыбіні сумлення мы чуем заклік чыніць дабро і пазбягаць зла. Паслухмянасць свайму сумленню з'яўляецца абавязкам чалавечай асобы, а кожны супраціў аб'ектыўным нормам хрысціянін павінен лічыць грахом (Тамсама).

Безумоўна, нельга забываць, што недастаткова казаць: *ідзі за голасам свайго сумлення*, але трэба яго пастаянна фарміраваць, шукаючы і прымаючы праўду. Асаблівая роля ў гэтым працэсе належыць сям'і, выхаваўча-навучальным установам, а таксама грамадскім аб'яднанням ды іншым супольнасцям, якія паводле прынцыпу дапаможнасці ўдзельнічаюць у выхаванні маладых людзей. Правільна сфарміраванае, праведнае і ўпэўненае сумленне дапамагае чалавеку самастойна прымаць рашэнні і здзяйсняць выбары не толькі ў простых і ясных справах, але і ў складаных сітуацыях, абапіраючыся на аўтарытэты і жыццёвы вопыт.

## БРСМ – супольнасць асобаў

У адкрытым доступе можна пазнаёміцца са статутам грамадскага аб'яднання “Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі”, з яго гісторыяй, мэтамі, структурай і напрамкамі дзейнасці. Там чытаем, што БРСМ ажыццяўляе сваю дзейнасць у адпаведнасці з Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь, Законам Рэспублікі Беларусь “Аб грамадскіх аб'яднаннях”, актамі заканадаўства Рэспублікі Беларусь і сваім статутам. Такім чынам, мы бачым, што аб'яднанне дзейнічае ў Рэспубліцы Беларусь на прававых асновах і адкрыта.

БРСМ ставіць мэтаю, між іншым, стварэнне ўмоў для ўсебаковага развіцця моладзі, раскрыцця яе творчага патэнцыялу, садзейнічанне развіццю ў Рэспубліцы Беларусь грамадзянскага грамадства, заснаванага на патрыятычных і духоўных каштоўнасцях, ды іншае. Чальцом Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі можа быць любы грамадзянін Рэспублікі Беларусь, а таксама замежныя грамадзяне, якія пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь, ва ўзросце ад 14 да 31 года, якія прызнаюць статут і праграмныя дакументы аб'яднання.

Каталіцкі Касцёл навучае, што “выхаванне моладзі, незалежна ад яе сацыяльнага паходжання, павінна сёння быць скіравана на тое, каб мужчыны і жанчыны былі не толькі адукаванымі, але і велікадушнымі, бо гэта найбольш патрэбна ў наш час” (Пастырская канстытуцыя пра Касцёл у сучасным свеце *Gaudium et spes*, 31). Розныя групы і аб'яднанні могуць актыўна паспрыяць гэтай справе, калі яны абапіраюцца на панадчасовыя, аб'ектыўныя і стойкія каштоўнасці. Удзел грамадзян у такіх супольнасцях пажаданы таксама і з боку Касцёла, які сцвярджае: “дзеля таго, каб усе грамадзяне жадалі ўдзельнічаць у жыцці розных груп, з якіх складаецца сацыяльны арганізм, неабходна, каб яны маглі знайсці ў іх каштоўнасці, якія б прываблівалі іх і заахвочвалі да служэння іншым. Можна справядліва лічыць, што будучы лёс чалавецтва ў руках тых, хто можа даць наступным пакаленням перспектывы жыцця і надзеі” (Тамсама). БРСМ – гэта жывы арганізм, які складаюць маладыя людзі, у тым ліку вернікі Каталіцкага Касцёла. Канешне, няма дадзеных адносна колькасці сяброў арганізацыі, якія сумяшчаюць дзейнасць у БРСМ з камуніяй з Богам, аднак я сам ведаю такіх людзей. Сярод іх ёсць і некаторыя навучэнцы нашай духоўнай семінарыі, а таксама хтосьці з маладых святароў. Калі яны ў сваім сумленні вырашаюць, што хочуць належаць да БРСМ, то Касцёл паважае іх выбар. У свабоднай краіне, дзе законам гарантуецца свабода сумлення і рэлігіі, кожны мае права належаць да той грамадскай супольнасці, якую лічыць каштоўнай і якая дапамагае яму гарманічна развівацца. Некалькі гадоў таму, калі я служыў пробашчам, БРСМ і наша парафія паспяхова рэалізавалі некаторыя праекты дзеля агульнага дабра мясцовай супольнасці.




## Хрысціяне пераменяюць свет

Зміцер хацеў бы пачуць меркаванне біскупаў наконт пастаўленага пытання. Касцёл выказваецца афіцыйна, таксама праз сваіх біскупаў у справах веры, маральнасці ці грамадскага жыцця, імкнучыся да пошуку і абвяшчэння праўды, а таксама перасцерагаючы чалавечую асобу перад тым, што небяспечнае і шкоднае. Беручы пад увагу статут БРСМ, а таксама аўтаномію Касцёла і дзяржавы, падаецца, што біскупам няма патрэбы выказвацца адносна прыналежнасці каталікоў да пэўнай моладзевай арганізацыі, якая не толькі не парушае годнасці чалавечай асобы, свабоды рэлігіі і не забараняе вызнаваць веру, але ў сваёй дзейнасці падтрымлівае шматлікія сацыяльныя і духоўныя праекты, а таксама служыць развіццю сваіх чальцоў. Многія вернікі праз удзел у БРСМ імкнуцца быць вернымі Богу ў сваім жыцці, прыслухоўваючыся да навучання Папы Францішка: “Сапраўдная вера, якая ніколі не з'яўляецца камфортнай і індывідуалістычнай, заўсёды вызначаецца глыбокім жаданнем пераменяць свет, перадаць каштоўнасці, пакінуць пасля сябе штосьці добрае на зямлі. Мы любім гэтую цудоўную планету, на якой нас змясціў Бог, і любім людзей, якія яе насяляюць, з усімі іх драмамі і стомленасцю, з іх імкненнямі і надзеямі, з іх каштоўнасцямі і слабасцямі. Зямля – гэта наш агульны дом, і мы ўсе – браты” (Францішак, Апостальская адгартацыя *Evangelii gaudium*, 183).

Папа вызначае напрамкі дзейнасці касцельнай супольнасці ў свеце: “хрысціяне, а таксама пастыры пакліканы клапаціцца пра будаванне лепшага свету. І гэта галоўнае, бо сацыяльнае вучэнне Касцёла ў першую чаргу пазітыўнае і дае прапановы, накіроўвае дзеянне, якое здольнае перамяніць, і ў гэтым сэнсе не перастае быць знакам надзеі, якая вынікае з поўнай любові сэрца Езуса Хрыста” (Тамсама). Каталікі не павінны баяцца ўдзельнічаць у аб'яднаннях свецкага характару, але, захоўваючы свабоду свайго сумлення, з адвагай далучацца да ініцыятываў, якія могуць паспрыяць развіццю агульнага дабра.

Святы Айцец піша, што “шкоднай і ідэалагізаванай з'яўляецца памылка тых, хто падазрона ставіцца да грамадскай актыўнасці іншых, лічыць яе чымсьці паказным, прыземленым, секулярызаваным, іманентным, камуністычным, папулістычным” (Францішак, Апостальская адгартацыя *Gaudete et exultate*, 101).

Свецкія вернікі, якія дзейнічаюць па сваёй уласнай ініцыятыве разам са сваімі суграмадзянамі, павінны прымаць удзел у фарміраванні палітычных механізмаў і арганізацыі грамадскага жыцця (пар. Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, 2442). Адносна святароў Касцёл пастанавіў, што яны не могуць удзельнічаць у палітычных партыях і павінны ўстрымлівацца ад стварэння або далучэння да аб'яднанняў, мэты ці дзейнасць якіх немагчыма сумясціць з сумленным выкананнем святарскіх абавязкаў (пар. Кодэкс Кананічнага Права, кан. 278 - §3 і 287 - §2).

Спадзяюся, што мой адказ дапаможа чытачам самастойна здзяйсняць правільныя маральныя выбары і заахвоціць да больш поўнага ды актыўнага ўдзелу ў жыцці чалавечай супольнасці. У адносінах з іншымі людзьмі мы пакліканыя заўсёды прытрымлівацца наказу Езуса Хрыста: “Новую запаведзь даю вам, каб вы любілі адно аднаго. Як Я палюбіў вас, так і вы любіце адно аднаго. Па гэтым усе пазнаюць, што вы – Мае вучні, калі будзеце мець любоў адно да аднаго” (Ян 13, 34-35).

## Сардэчна віншуем!



*Сардэчна віншуем нашага **святара Мікалая Ліпскага** з днём святога Мікалая (6 снежня)!*

*Ксяндзу Мікалаю жадаем плённай працы на Божай ніве, моцнага здароўя, апекі Маці Божай і каб усе задумкі здзяйсняліся!*

*За адзін год служэння ў нашай парафіі святой Марыі Магдалены ў г. Новалукомлі клопатамі ксяндза Мікалая зроблена шмат працы: адрамантаваны дах касцёла, заменена агароджа, добраўпарадкавана прыкасцельная тэрыторыя. А як цудоўна праходзіць парафіяльны фэст, які ладзіцца 22 ліпеня! Да нас завітваюць госці з іншых парафій, прыязджала беларуская спявачка Валянціна Альшанская, быў з канцэртам моладзевы гурт. Усе ўдзячныя ксяндзу Мікалаю за яго клопат. У нас сталі ладзіцца пілігрымкі. Дзе толькі не пабывалі нашы парафіяне! Нават на сустрэчы з Папам Рымскім у Прыбалтыцы нашым вернікам удалося пабываць! Чым гэта не цуд? Такога раней у нас ніколі не было.*

***З павагай, парафіяне касцёла Святой Марыі Магдалены, г. Новалукомль***

## Хвала Хрысту!

***Паважаны ксёндз Мікалай!** Дасылаем Вам прывітанне і сардэчныя віншаванні з нагоды імянінаў (6 снежня)! Жадаем моцнага здароўя, людской добразычлівасці, дароў Духа Святога, Божай ласкі і дапамогі ва ўсіх справах, натхнення для далейшага служэння Хрысту і Святому Касцёлу! Няхай святы заступнік Мікалай дапамагае Вам у кожную хвіліну жыцця і нястомна трымае ў сваёй апецы, каб кожны Ваш дзень быў напоўнены шчасцем і супакоем!*

*Дзякуем за Вашу працу, за адданасць і добрыя справы, якія былі зроблены на карысць нашай парафіі. Мы памятаем Вас у малітве.*

***З удзячнасцю, вернікі Лучайскай парафіі***

## Шаноўны ксёндз Мікалай Ціхановіч!



*З нагоды імянін (6 снежня) шчыра жадаем Вам Божай мудрасці, сілы духу, плёну ў працы на карысць Касцёла, светлай радасці і любові ў сэрцы, апекі св. Мікалая!*

***З найлепшымі пажаданнямі, мама, брат, сястра, пляменніцы і ўнучка***

## Хвала Хрысту!

*Мы, вернікі парафіі Маці Божай Шкаплернай у в. Ёды, дзякуем **супрацоўнікам газеты "Каталіцкі Веснік"** за цікавыя і змястоўныя матэрыялы, якія друкуюцца ў газеце! Заўсёды чакаем новы нумар газеты і з цікавасцю чытаем пра Касцёл і яго справы.*

*Шчыра віншуем усіх супрацоўнікаў газеты, асабіста **ксяндза Віктара Місевіча**, а таксама дасылаем словы віншаванняў паважанаму **біскупу Алегу Буткевічу**, дэкану Шаркаўшчынскага дэканата **ксяндзу Кшыштафу Сілкоўскаму**, **ксяндзу Яну Пугачову**, **вікарыю Генадзю Рэйшалю** са святам Божага Нараджэння і з Новым 2019 годам!*

*Моцнага Вам здароўя і поспехаў у працы. Хай кожны дзень будзе напоўнены людской дабрынёй і асвечаны Божай ласкай!*

*І яшчэ хочацца дапоўніць: у нас, у Ёдах, другі год працуе вікарыем ксёндз Генадзь Рэйшаль. За гэты час ён зарэкамендаваў сябе як старанны, шчыры, добры святар. Для нашай святыні ксёндз пастараўся набыць новыя абрусы, альбы, ампулкі, новы дыван каля алтара.*

*Жадаем нашаму ксяндзу здароўя і быць з намі, з Ёдскай парафіяй.*

***Ад імя парафіян з Ёдаў, Галіна Яблонская***

## Хвала Хрысту!



*Паважаная рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"! Дзякуем вам за шчырую, змястоўную газету! Кожны нумар "Каталіцкага Весніка"– гэта яшчэ адзін крок у нашым духоўным развіцці, яшчэ адна прыступка ўгору на дарозе да неба.*

*А яшчэ дзякуем за тое, што ў кожным нумары вы друкуеце віншаванні і падзяку нашым шаноўным святарам. Вось і сёння мы хочам павіншаваць нашага пробашча, дарагога нам чалавека **ксяндза Альфрэда Пяхоту** з імянінамі (14 снежня).*

*Мы ўдзячны Вам, ксёндз Альфрэд, за кожны дзень служэння ў нашым касцёле, за нястомны клопат пра наша духоўнае здароўе, за бясконцую крыніцу энэргіі і ... за кветкі! На дварэ ўжо сняжок, а ў нашым касцёле ўсё яшчэ квітнеюць рознакаляровыя хрызантэмкі. Кветкі-лекары для тых, хто іх разумее. А Вы не толькі разумееце, але і любіце іх. Любіце жывую прыроду, выпраменьваеце хрысціянскую радасць і вучыце гэтаму нас.*

*Дзякуй Богу, Які даў нам Вас як настаўніка жыцця ў веры, надзеі і любові! Спадзяёмся, што зерне дабра, пасеянае Вамі, прарасце ў сэрцах парафіянаў і дасць добры плён. А Вам зычым надзейнай апекі Святога Заступніка нябеснага, а Святы Дух – Дух Праўды – няхай напаўняе Вашае сэрца і дапамагае вырашаць усе жыццёвыя праблемы!*

***Парафіяне касцёла Нараджэння Найсвяцейшай Панны Марыі ў Відзах***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*14 снежня **ксёндз-дэкан Альфрэд Пяхота** адзначыў імяніны. Шаноўны наш пробашч! Жадаем Вам сілы і трываласці, моцнага здароўя, душэўнага спакою і добрага настрою, Божай падтрымкі ва ўсіх справах, шчырых вернікаў на Вашым святарскім шляху! Няхай Усемагутны Бог Вас ніколі не пакідае, Маці Божая хай ахіне сваёй апекай на доўгія гады святарскага служэння Богу і людзям!*

*Дзякуем Вам за адданае служэнне Касцёлу, за тлумачэнне Божага слова, за мудрыя і павучальныя казанні, за жаданне дапамагчы людзям знайсці дарогу да Пана Бога!*

***З павагай і ўдзячнасцю, вернікі з аг. Казяны (парафія Нараджэння Найсвяцейшай Марыі Панны ў Відзах)***

## Хвала Хрысту!



*4 студзеня 2019 года **айцец Станіслаў Памыкала** адзначыць 70-годдзе. Мы хочам выказаць Вам, шаноўны айцец Станіслаў, сардэчныя пажаданні Божага благаславення, бясконцай крыніцы энергіі і натхнення, мудрасці, вялікай радасці ад кожнага дня! Сто гадоў Вам пражыць і аддана служыць Езусу і Касцёлу!*

***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***

## Хвала Хрысту!

*Са святам Божага Нараджэння мы хочам павіншаваць усіх святароў, якія працавалі ў нашай парафіі: **ксяндза Мечыслава Янчышына**, **ксяндза Юрыя Жаўнярovіча**, **ксяндза Генадзя**, **ксяндза Славаміра Самковіча**, **ксяндза Рамана Мурзіча**. Няхай іх вера прыносіць добры плён на Божай ніве! Дзякуем ім за ахвярную працу, за адданасць цудоўнаму дару святарства!*

*Хочам асабліва павіншаваць нашага **ксяндза Мікалая Ліпскага** з Божым Нараджэннем. Мы дзякуем Богу, што даў нам такога святара, шчырага ў малітве і ў працы. Любяць яго ўсе парафіяне. Жадаем ксяндзу Мікалаю шчодрага плёну ў святарскім служэнні, моцнага здароўя. Мы, удзячныя парафіяне, шчыра молімся за яго і жадаем яму Божых ласкаў на кожны дзень жыцця!*

***З павагай, парафіяне з г. Новалукомля***

## Паважаны ксёндз Славамір Самковіч!



*Самая прыгожая ноч на ўсім свеце – ноч Божага Нараджэння! Няхай Маленькі Езус адорыць Вас здароўем, добрым настроем і поспехамі на Вашым святарскім шляху, а Маці Божая хай аберагае Вас праз усё жыццё!*

***Вернікі з "Апостальства дапамогі душам чысцовым"***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

*11 снежня адзначыў Дзень нараджэння **ксёндз Раман Мурзіч**.*

*Шаноўны ксёндз Раман! Шчыра віншуем Вас з гэтай нагоды! Жадаем Божай ласкі, моцнага здароўя, здзяйснення мараў, радасных дзён і толькі добразычлівых людзей побач! Няхай Езус Хрыстус благаслаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая хай ахінае сваёй любоўю і апекай, Святы Дух хай дапамагае выконваць душпастырскую паслугу і шчодра адорвае ласкамі! Мы цешымся з Вашай святарскай паслугі! Дзякуем за Ваша добрае сэрца, за шчырасць і мудрасць, за любоў да Пана Бога!*

*Нізкі паклон Вашай маме, якая стаяла ля вытокаў Вашага святарскага выбару і аддала свайго сына на службу Богу і людзям!*

***З удзячнасцю, вернікі касцёла Імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Параф'янаве***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаная рэдакцыя нашай любімай газеты! Спяшаемся з Вашай дапамогай павіншаваць нашага **ксяндза Віталя Гальца** з Днём нараджэння, які ён адзначыў 16 снежня!*

*Жадаем Вам, паважаны ксёндз Віталь, моцнага здароўя, плёну ў працы на Божай ніве, апекі Панны Марыі, дароў Духа Святога! Мы ўдзячныя Богу за тое, што Ён дае нам магчымасць маліцца разам з Вамі, чуць ад Вас Божае Слова. Дзякуем Вам за глыбокую веру, за аптымізм і чуласць, за плённую працу на карысць касцёла і парафіі!*

*Цеплыня Вашага сэрца саграваe нас нават у студзеньскія маразы. Шчыра молімся, каб Божая міласэрнасць спадарожнічала Вам і Вашым родным праз усё далейшае жыццё!*

***З павагай, вернікі парафіі Св. Лаўрэна з г.п. Ушачы***

## Віншуем святара!



*Паважанаму **ксяндзу Віктару Захарэўскаму** з нагоды надыходу святаў Божага Нараджэння і Новага года дасылаем сардэчныя пажаданні: няхай Бэтлеемская зорка асвячае Ваш шлях, Дзіцятка Езус адорвае Вас супакоем, любоўю і радасцю, Маці Божая хай апякуецца ў кожную хвіліну жыцця, а Святы Дух хай апраменьвае Вас сваім святлом і шчодра ўдзяляе свае дары! Жадаем шчасця, здароўя, доўгіх гадоў жыцця, спакойных і ясных дзён у святарскай паслузе, а таксама добразычлівых людзей на жыццёвым шляху!*

*Дзякуем за павагу і цярплівасць, а Пану Богу – за тое, што паслаў на наш шлях такога цудоўнага святара і сапраўднага гаспадара нашага касцёла!*

***З вялікай павагай, малітвай і ўдзячнасцю, малітоўны рух "Маці ў малітве". Касцёл Святых Анёлаў Ахоўнікаў, в. Раготна (Дзятлаўскі раён, Гродзенская вобласць)***

**Адказы на тэст са старонкі 9:**
1 – Б; 2 – А; 3 – В; 4 – В; 5 – В; 6 – А; 7 – В; 8 – А

## Сардэчна віншуем!

*Паважанаму **ксяндзу Леаніду Мозгелю** 26 снежня, у дзень яго 50-гадовага юбілею, дасылаем шмат гарачых пажаданняў!*

*Жадаем Вам кожны дзень нанова захапляцца жыццём – непаўторным і адзіным, любоўю – паўсюднай і цярплівай, сяброўствам – незнішчальным і ціхім, а таксама ўсміхацца сабе і свету!*

*Жывіце так, каб кожны чарговы дзень быў непаўторным і выключным, напаўняйце кожную хвіліну так, каб пазней успамінаць яе з радасцю, чэрпайце энэргію з бясконцай крыніцы, якой з'яўляецца Сэрца Езуса, з сонца, з кропелек дажджу і ўсмешак іншых. Няхай Святы Дух апраменьвае сваім святлом кожны дзень Вашай святарскай паслугі, Езус няхай заўжды будзе Вашым сябрам, а Марыя няхай прыхінае Вас да свайго сэрца!*

*Дзякуем Вам за тое, што Вы з намі, за ўсе старанні і клопат пра людзей!*

*Жадаем сто і больш гадоў жыцця!*

***Удзячныя вернікі з Павяцкай парафіі***

## Шаноўны ксёндз Леанід Мозгель!

*З нагоды 50-годдзя з дня Вашага нараджэння, якое прыпадае на Калядныя святы, мы жадаем Вам няспынных Божых ласкаў на жыццёвым шляху, дароў Святога Духа, апекі Найсвяцейшай Панны Марыі з Фацімы, здароўя на далейшыя гады, зычлівых і шчырых людзей на святарскай дарозе, няспыннага запалу для абвяшчэння Божага слова, прыгожага плёну службы Богу і людзям!*

*Мы ўдзячныя, што на працягу амаль дзесяці гадоў Вы прыязджалі да нас, у Лявонпаль. Былі нашым духоўным кіраўніком, адпраўлялі святую Імшу, маліліся з намі, наведвалі могілкі, хадзілі па Калядзе, асвячалі нашыя хаты.*

*Са слязьмі на вачах сустрэлі парафіяне навіну пра закрыццё лявонпальскага касцёла. Але на ўсё воля Божая... Дзякуем за ўвагу да нас, бо мы не засталіся незаўважанымі.*

*Дзякуем, што прыязджаеце ў капліцу, якая знаходзіцца на могілках у вёсцы Паташня і пабудаваная пад Вашым кіраўніцтвам і Вамі асвечана.*

*Мы заўсёды памятаем пра Вас у сваіх малітвах!*

*Мы схіляем нізка галовы і дзякуем Вам за ахвярную працу, за дабрыню, за шчырыя малітвы, павучальныя казанні, за гатоўнасць заўжды прыйсці на дапамогу, за аўтарытэтнае слова, за зычлівасць, сціпласць, цярплівасць, цудоўную ўсмешку. Няхай Дзіцятка Езус блаславіць Вас у душпастырскай працы! Аддзяч, Божа, за цудоўны прыклад пабожнасці і шчасці, Божа, у далейшай пастырскай паслузе!*

*Няхай Бог шчыра Вас узнагародзіць!*

***З пажаданнямі і дарам малітвы, вернікі з вёсак Лявонпаль, Дэмская, Паташня***

## Паважаны ксёндз Леанід Мозгель!

*Шчыра віншуем Вас са святам Божага Нараджэння і днём Вашага нараджэння (26 снежня)! Няхай Езус Хрыстус адорыць Вас супакоем і здароўем на ўсе Вашы гады, а Маці Божая няхай дапамагае ў Вашай нялёгкай працы!*

***З павагай, вернікі касцёла Маці Божай Шкаплернай***

## Хвала Хрысту!

*Віншуем з Нараджэннем Пана пробашча парафіі **ксяндза Мікалая Ціхановіча**, **ксяндза Івана Кароткіна**, **ксяндза Віталя Бяленіка**, **дыякана Уладзіслава Шарковіча**, **сясцёр законных**, якія працуюць у Глыбоцкай парафіі Святой Тройцы, а таксама ўсіх святароў і сясцёр законных, якія тут працавалі раней. Шчыра жадаем, каб Дзіцятка Езус асвяціў сваёй ласкаю іх нялёгкі шлях, умацаваў у веры і святасці, а Маці Божая ахінула іх сваёй апекай!*



***Вернікі парафіі Святой Тройцы ў Глыбокім***



## Віншуем!

*Шаноўны **ксёндз Антоній Лагунёнак**! Прыміце нашы светлыя і сардэчныя віншаванні з нагоды Божага Нараджэння і Новага года! Шчасця Вам і моцнага здароўя, нязломнай веры, доўгіх і плённых гадоў жыцця, Божага благаславення, апекі Маці Божай і Анёла-Ахоўніка!*

***Ад імя ўсіх вернікаў парафіі св. Язафата Кунцэвіча ў в. Канстанцінава, Часлава Вышадка***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Хочам павіншаваць з Днём нараджэння (6 студзеня) заснавальніка нашай парафіі і "будаўніка" нашага касцёла ў Расонах **ксяндза Вячаслава Барка**.*

*Мы жадаем ксяндзу Вячаславу плёну ў яго нялёгкай працы, моцнага здароўя! Жадаем, каб заўсёды і ва ўсім яму дапамагалі Бог Айцец, Езус Хрыстус, Маці Божая Марыя, усе анёлы і ўсе святыя!*

***Парафіяне касцёла св. Язафата Кунцэвіча ў Расонах***

## Хвала Хрысту!

*Паважаны **ксёндз Ян Пугачоў**! Сардэчна віншуем Вас са святам Божага Нараджэння!*

*Жадаем Вам здароўя, радасці і шчасця,*
*Апекі Божай назаўсёды,*
*Каб міласэрнасць Езуса-Дзіцяці*
*Аберагала Вас ад злой прыгоды!*
*А зорка, у Бэтлееме штоззяла,*
*Спаслаўшы промень Божай ласкі,*
*Каб Вам заўсёды асвячала*
*Нялёгкі шлях святарскі!*



***Апостальскі рух "Маргарытка", касцёл Перамянення Пана ў в. Германавічы***

## Віншуем!

*Паважаны **ксёндз Вячаслаў Пялінак**! Ад усіх нашых душаў і сэрцаў віншуем Вас са святам Божага Нараджэння! Няхай Маленькі Езус адорыць Вас новымі ласкамі, а Яго Маці хай падорыць новыя радасці, новыя ўсмешкі, Вялікі Бог хай спашле благаславенне – новыя сілы і здароўе!*

***З удзячнасцю, вернікі касцёла Маці Божай Шкаплернай***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Паважаны **ксёндз Павел Мажэйка**! Апостальскі рух "Маргарытка" з касцёла св. Барбары г. Віцебска шчыра віншуе Вас са святам Божага Нараджэння!*

*Жадаем Вам пастырскай мудрасці, моцнага здароўя, сілаў і Божай ласкі на кожны дзень! Асабліва ў дзень Божага Нараджэння жадаем Вам шчасця, радасці, спакою і святла Бэтлеемскай зоркі!*

*Мы памятаем Вас, любім і молімся за Вас!*

***Парафіяне касцёла св. Язафата Кунцэвіча ў Расонах***



## Віншуем шаноўнага біскупа Алега Буткевіча!



*Ваша Эксцэленцыя!*

*Шчыра віншуем Вас з Божым Нараджэннем! Жадаем узнёслага святочнага настрою. Няхай Дзіцятка Езус благаслаўляе Вас і дадае Вам сіл, мудрасці і нястомнага гарэння ў служэнні Касцёлу! Заставайцеся і надалей такім добрым і радасным пастырам!*

***З пашанай, супрацоўнікі "Каталіцкага Весніка"***

## Са святам Божага Нараджэння!

*Шаноўны наш **ксёндз-пробашч Кшыштаф**! Паважаны дапаможны **ксёндз Генадзь**!*

*Сардэчна віншуем Вас са святам Божага Нараджэння!*

*Чароўнае святло той далёкай дзівоснай ночы вось ужо больш за два тысячагоддзі штораз вяртаецца на зямлю, каб сказаць людзям: "Бог блізка! Спадзявайцеся на Яго, чакайце Яго, любіце Яго кожную хвіліну свайго жыцця!"*



*У гэтыя цудоўныя святочныя дні мы жадаем Вам шмат радасных і шчаслівых хвілін, моцнага здароўя, сіл і стойкасці, вытрымкі і цярплівасці ў нялёгкай і адказнай святарскай паслузе. Няхай спаўняюцца добрыя жаданні, а моц Божага благаслаўлення хай падтрымлівае Вас у кожнай справе! Няхай малітва і апека Маці Божай ахіляе Вас у кожнае імгненне!*

*Дзякуем Пану Богу і Вам за служэнне ў нашай парафіі, за Божае слова, за павучальныя казанні, за шчырую малітву, за цярплівасць і разуменне нашых патрэб, за прыклад пабожнасці, за Вашу дабрыню і клопат, і за тое , што Вы з намі заўжды: і ў радасці, і ў горы, і ў будні, і ў святы!*

*А таксама мы шчыра дзякуем **святару Аляксандру Грыцкевічу** за Адвэнтовыя рэкалекцыі і жадаем усіх Божых ласкаў!*

***З удзячнасцю і павагай, вернікі касцёла Узвышэння Святога Крыжа ў Шаркаўшчыне***

## Пахвалёны Езус Хрыстус!



*Дасылаю Вам, шаноўны **ксёндз Адам Квяткоўскі**, свае віншаванні з Днём імянін (24 снежня) і Днём нараджэння (25 снежня).*

*Паважаны ксёндз Адам! Езус Хрыстус Вас любіць! Вы сціплы, адкрыты, працаздольны святар. Дабрыня свеціцца ў Вашых вачах. Вы пасялілі ў нашых сэрцах новыя надзеі, умацавалі веру ў тое, што калі мы з Богам, то мы не адны. І ў радасці, і ў горы Вы не пакідаеце нас.*

*Ад усяго сэрца жадаю Вам, дарагі айцец Адам, моцнага здароўя, духоўнай моцы, найвялікшай Божай міласэрнасці, дароў Духа Святога, нястомнай апекі Маці Божай!*

***Леакадзія Абухоўская, парафія Св. Антонія (г. Віцебск)***



## Пахвалёны Езус Хрыстус!

Паважаная рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"! Праз Вашу газету хочацца даслаць словы падзякі і віншавання **ксяндзу Леаніду Мозгелю**, пробашчу Павяцкай парафіі Мёрскага раёна з нагоды юбілейнага Дня нараджэння.

26 снежня ксяндзу Леаніду споўніцца 50 гадоў, а ў нас ён працуе 13 гадоў.

Касцёл наш малады, асвечаны 1 кастрычніка 2000 г. Ксёндз Леанід Мозгель – першы святар, які яго ўзначаліў і пастаянна тут пражывае. З першых дзён працы ксяндза Леаніда мы ўбачылі чулага, шчырага і спагадлівага пастыра, які ведае адказы на ўсе нашы пытанні. З Божай дапамогай, дзякуючы цярпенню і шчырасці ў малітве ён вычыць нас любіць Пана Бога і Панну Марыю. Ксёндз Леанід прымае нас такімі, якія мы ёсць, з усімі нашымі праблемамі, няшчасцямі, недахопамі.

Мы дзякуем Богу, што Ён паслаў на наш шлях такога цудоўнага святара і гаспадара нашага касцёла. Многа сіл прыклаў наш шаноўны ксёндз да таго, каб сталі мы адной вялікай сям'ёй, па-сапраўднаму адчулі сілу малітвы. Парафіяне павяцкага касцёла ўдзячныя ксяндзу Леаніду за радасць і спакой, якія жывуць у нашай святыні. За веру ў моц сумеснай малітвы перад пачаткам любой працы. І як вынік – за пазітыўнае здзяйсненне многіх і многіх спраў на чале са святаром. Самыя важныя з іх – прыгожы і велічны галоўны алтар нашага касцёла, новае аблічча атрымалі алтар Маці Божай Фацімскай і алтар Святога Крыжа, створаны катэхетычны клас і закрыстая, адбудавана пры касцёле плябанія, драўляныя вокны ў храме саступілі месца шклопакетам, заменены дзверы, пабудавана новая агароджа вакол касцёла.



Наш дарагі пастыр валодае вытанчаным пачуццём прыгажосці і непаўторным густам. Касцёл упрыгожвае шмат кветак, летам радуе кожнага невялікі фантанчык, песцяць вока каляровыя рыбкі ў штучным вадаёме ля касцёла. Святар вельмі любіць птушак, мае занятак для душы – гадуе галубоў. Замілаванне галубамі ў ксяндза Леаніда з дзяцінства, гадаваў іх яшчэ яго прадзед. Непаўторны птушыны вырай у парафіі захапляе і дзяцей, і дарослых. Ксёндз можа правесці экскурсію, пазнаёміць ахвотных з гэтымі вельмі прыгожымі і разумнымі стварэннямі. Як кажа ксёндз Леанід, "я люблю прыгажосць. Паглядзіце, гэтыя птушкі такія нявінныя. Глядзіш на іх – і сэрца радуецца". Між іншым, гэтым самым святар нагадвае нам пра беражлівыя адносіны да прыроды.

Ксёндз Леанід – чалавек, якога Бог надзяліў вялікай прыгажосцю душы, дабрынёй і сціпласцю, мудрасцю ў духоўнай справе. Ён заўсёды чулы і ўважлівы да парафіянаў: як да старэйшых, так і да малодшых, любіць дзяцей.

Нам хочацца сардэчна падзякаваць пробашчу за тое, што заўжды знаходзіць час памаліцца ў нашых інтэнцыях, за нястомную працу, за дар рабіць людзям дабро. Вялікі дзякуй за тое, што ён атуляе нас сваёй пастырскай апекай, запальвае агеньчыкі любові да Бога ў нашых грэшных душах.

Абароненыя яго малітвай, мы адчуваем сябе ўпэўнена, спакойна і радасна, быццам частка Божага благаслаўлення і таленту, падараваных яму Панам Богам, перападае і нам, яго парафіянам.

Мы дзякуем бацькам і родным ксяндза Леаніда. Няхай Пан Бог дасць яго цудоўнай матулі пані Станіславе здароўя і доўгія гады, а спачыламу тату Юзэфу – жыццё вечнае ў Нябесным Валадарстве!

У дзень нараджэння нам хочацца папрасіць у ксяндза Леаніда прабачэння за нашу людскую няўдзячнасць, за нашу нястрыманасць, за наша часам неабдуманае слова або ўчынак.

А з нагоды юбілею шаноўнаму ксяндзу Леаніду дасылаем нашыя найлепшыя сардэчныя пажаданні: здароўя, душэўнага супакою, міласэрнасці Божай і неабходных ласкаў у нялёгкім святарскім жыцці! Няхай Пан Бог штодзённа дадае нашаму пробашчу сілы, аптымізму і благаслаўляе на кожны момант жыцця!

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю,***
***касцельны камітэт з Павяцця***

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**23 снежня 2018 г.**

***Лк 1,39-45***

Чалавек, які супрацоўнічае з Божай ласкай і адкрыты на Святога Духа, бачыць рэчаіснасць больш поўна. Альжбета, натхнёная Святым Духам і адкрытая на Яго натхненні, заўважыла ў цяжарнай Марыі Маці Збаўцу. Узрадавалася, бо зразумела, што распачынаецца Божае Збаўленне. Альжбета прарочыць пра будучую хвалу Марыі і хваліць Марыю за паслухмянасць Божаму Слову. Яна называе Езуса Панам, г.зн. Богам. У гэтым здарэнні мы бачым Касцёл, які ў асобе Марыі прыносіць Хрыста свету. А радасць свету бачым у радасці Яна Хрысціцеля з-за таго, што Збаўца-Бог прыйшоў. Збаўленне блізка, Божыя людзі ўжо бачаць Яго.

*– Ці слухаю Божае Слова як Слова, скіраванае да мяне?*

*– Ці іду за Божымі натхненнямі?*

*– Ці размаўляю пра іх са сваім спаведнікам або духоўнікам, каб не памыліцца?*

*– Ці, будучы вучнем Хрыста, гляджу на жыццё і рэчаіснасць вачыма веры?*

*– А можа, пра ўсё разважаю толькі па мерках гэтага свету?*

*– Ці спадзяюся, што Бог прынясе збаўленне і да майго жыцця?*

*– Якія справы і якім чынам Яму адкрываю, каб Ён збаўляў?*

*– Ці іду я да Яго са сваім грахом і са сваім паміраннем?*

*– Ці давяраю Божаму слову, як Марыя?*

*– Ці гатовы я ісці за вучэннем Божага Слова, нягледзячы на перашкоды?*

*– Ці цаню кожнае зачатае дзіця?*

*– Ці абараняю перад няшчасцем аборту?*

*– Ці дапамагаю жанчынам, якія чакаюць дзіця?*

*– Ці спавядаюся і ці пакутую, каб перапрасіць за грэх аборту?*

*– Ці праз абарону жыцця і дапамогу людзям узнагароджваю за грахі аборту?*

*– Ці малюся за сябе і за іншых грэшнікаў, каб не трацілі надзеі на Божую міласэрнасць?*

**30 снежня 2018 г.**

***Лк 2,41-52***

Марыя, пачуўшы словы Альжбеты, прамовіла гімн праслаўлення Бога. Гімн гэты з'яўляецца вызнаннем веры ў Яго дабрыню і вернасць. Вякамі гэтым гімнам хрысціяне праслаўляюць Бога за Яго збаўчую справу ў іх жыцці. Мы знаходзім у гэтым гімне разважанне пра Божую дабрыню, пра Божы провід і пра вернасць Богу. Кожны з нас можа ўбачыць сябе ў постаці Марыі, якая заўважыла руку Божага провіду ў сваім жыцці. Яна захапляецца вернасцю Богу кожнага з нас.

*– Ці бачу Божае дзеянне ў маім жыцці?*

*– Ці заўважаю дабро, якім Бог мяне адарыў?*

*– Ці заўважаю каштоўнасць дару жыцця?*

*– Ці цаню тое, што маю: здароўе, розум, родных, сяброў, веру, Касцёл?*

*– Ці цаню тое, што Бог мяне збаўляе ад маіх грахоў?*

*– Ці цаню, што Бог мяне збаўляе ад безвыходнасці, хваробаў, старэння і смерці?*

*– Ці супрацоўнічаю з Божым провідам?*

*– Ці веру, што Бог мае план для мяне?*

*– Ці імкнуся распазнаць Божую волю і выканаць яе?*

*– Ці дазваляю, каб мяне прыгняталі перашкоды, спакусы, страта надзеі?*

*– Ці памятаю, што Бог верны?*

*– Ці памятаю, што Ён ад мяне ніколі не адвернецца, калі я сам не пакіну Яго праз грэх?*

**6 студзеня 2019 г.**

***Мц 2,1-12***

Мудрацы – гэта людзі, якія прыбываюць здалёку як у сэнсе прасторы, так і ў духоўным сэнсе. Яны ўказваюць нам, што Бог хоча, каб Яго Збаўленне датычыла ўсіх. Трэба заўважыць, што тыя, якія блізка, напрыклад, Ірад, маюць абвяшчэнне Старога Запавету, але не прымаюць Езуса, бо баяцца, што Ён будзе пагрозай для свету, які яны сабе пабудавалі. Тым часам людзі здалёку, якія з чыстым сэрцам шукаюць праўды, знаходзяць яе. Тыя, хто адкрывае сваё сэрца на дзеянне Святога Духа і ідзе за Божымі натхненнямі, знаходзяць Бога. Яны атрымліваюць дар бачыць пагрозы. Іх паклон перад Нованароджаным і іх дары паводле традыцыі з'яўляюцца прароцтвам таго, што Езус прыйшоў да ўсіх, што Ён – Кароль і Бог, Які будзе цярпець, але, як ведаем, перамажа.

*– Ці не з 'яўляюся я хрысціянінам, які закрывае сваё сэрца на іншых людзей?*

*– Як я стаўлюся да іншаверцаў?*

*– Як стаўлюся да людзей, якія не вераць у Бога?*

*– Можа, дар веры выкарыстоўваю, каб пагарджаць іншымі?*

*– Ці маю спачуванне для людзей, якія не атрымалі шчасця ведаць Жывога Бога?*

*– Што раблю, каб дапамагчы ім убачыць, што Бог прыйшоў, каб іх выратаваць?*

*– Ці сведчаць маё жыццё, словы і ўчынкі пра Езуса?*

*– Ці цаню першыя крокі, якія пад натхненнем Духа робяць людзі, далёкія ад Бога?*

*– Ці бачу ў гэтых кроках Божае дзеянне?*

*– А можа, я падобны да Ірада і баюся прыняць Езуса як Пана свайго жыцця?*

*– Можа, я хачу быць панам і богам?*

*– Можа, сваімі словамі і ўчынкамі адпраўляю жаўнераў, каб забівалі Божую справу ў сям'і, у сэрцах дзяцей?*

*– Ці люблю Езуса?*

*– Ці хачу, каб Ён мяне збавіў?*

*– Што Яму ахвярую?*

*– Ці хачу, каб праз мяне Ён стаў святлом жыцця для людзей, якія ў цемры?*

**13 студзеня 2019 г.**

***Лк 3,15-16. 21-22***

Усённяшнім Евангеллі чуем, што Святы Дух сыходзіць на Езуса. Гэта Ён, Святы Дух, хрысціць Езуса. Езус праз малітву знаходзіцца ў сувязі з Айцом. Голас Айца з'яўляецца Спрадвечным Божым Словам. Перад намі аб'яўляецца Тройца. Бог прыйшоў да нас і хоча нас з'яднаць з сабой. Ян Хрысціцель прарочыць, што Езус будзе хрысціць – гэта значыць, акуне ў Святым Духу і агні. Сапраўды, дзеянне Езуса і Яго Касцёла можна назваць акунаннем нас у моцы Божага Духа і распальваннем у нас агню любові, якой ёсць Бог.

*– Ці разумею, што ўцелаўленне Хрыста, Яго нараджэнне і Пасха – гэта Божае дзеянне, накіраванае на тое, каб з'яднаць мяне з Ім?*

*– Ці цаню тое, што Бог клапоціцца пра мяне?*

*– Ці бачу, што Ён для мяне нарадзіўся, за мяне памёр, і Яго змёртвыхпаўстанне адчыняе для мяне нябесныя дзверы?*

*– Ці дазваляю Богу, каб мне збавіў?*

*– Ці прымаю Яго Слова – Біблію – як слова збаўлення для мяне?*

*– Ці слухаю, ці чытаю Біблію?*

*– Ці жыву згодна з вучэннем Божага слова?*

*– Ці ўсведамляю, што Божы Дух жыве ўва мне?*

*– Ці слухаю натхненняў Святога Духа?*

*– Ці жыву згодна з законам любові?*

*– Ці распаляе маё жыццё жаданне любіць?*

*– Ці цаню святы Касцёл, які з'яўляецца Целам Хрыста, народжаны і ажыўлены Святым Духам? Можа, гляджу на Касцёл толькі як на людскую арганізацыю?*

*– Ці карыстаюся сакрамантамі, праз якія Бог акунае мяне ў Святым Духу і ўдасканальвае маю любоў?*

*– Ці малюся, каб быць у еднасці з Богам?*

*Разважанні падрыхтаваў*
***кс. Павел Кнурэк,***
*архіўны матэрыял*

# ПАЗНАВАЙКА

Пазнаём Хрыста і Яго Касцёл!

Каму спачатку анёлы прынеслі вестку аб нараджэнні Хрыста? Пра гэта можна даведацца, падарожнічаючы па лініях зорачкі, пачынаючы з вылучанай літары. Адказ запішы ў пустых квадрацiках.




Упрыгож святочную елачку. Злучы па парадку крокі, дамалюй цацкі, якіх не хапае на ялінцы.



Марыя з Юзафам вырушылі ў падарожжа. Яны доўга ішлі і прыбылі на месца, дзе нарадзіўся Збаўца. Калі правільна пройдзеш па іх шляху, даведаешся ў якім горадзе нарадзіўся Езус.






У адным з прароцтваў аб нараджэнні Езуса было сказана, што будзе дадзена Яму імя Эмануэль. Што азначае гэтае імя? Злучы па чарзе сняжынкі, і даведайся, што азначае адно з імёнаў Хрыста.




_______________________________________

*Святочная казка*

*Прачытай разам з бацькамі.*

## Прыгоды маленькага каласка



Прывітанне! Я - каласок. Вырас я на вялікім Бэтлеемскім полі. Вакол мяне было шмат такіх жа самых каласкоў - маіх братоў і сясцёр. Сёння на полі незвычайны дзень: мой гаспадар вырашыў сабраць ураджай. Ён зрэзаў усе каласы, звязаў у снапы і памалаціў. Я таксама трапіў у сноп, толькі я схаваўся глыбей - вось і застаўся цэлы.

Потым мяне занеслі ў хлеў. У хляву жылі карова, вослік і ягня, а яшчэ - дзве курачкі-нясушкі і вельмі важны певень. Сноп развязалі і паклалі ў яслі (кармушку для жывёлы). Я схаваўся далей, каб мяне ніхто не ўбачыў і, чаго добрага, не з'еў. ... І тут я пачуў нечыя крокі. У хляву з'явіліся мужчына з жанчынай. Яны ўладкоўваліся на начлег. З іх размовы я зразумеў, што яго завуць Юзаф, а яе - Марыя, і яны чакаюць нараджэння нейкага асаблівага дзіцяці ...

Гэтай жа ноччу Марыя нарадзіла хлопчыка. Яго спавілі і паклалі ў яслі на мяккае сена. Я ляжаў побач з Ім і мог бачыць, як Ён усміхаўся Сваім бацькам. Карова, вослік і ягня таксама стаялі побач і сагравалі Яго сваім дыханнем. Юзаф і Марыя казалі: "Вось і збылося прадказанне пракрокаў - Нарадзіўся СЫН Божы, Імя Яму - Езус".



Дзверы расчыніліся, і ў хлеў увайшлі вялікія моцныя людзі. Гэта былі пастухі. Яны спыталі: "Тут нарадзіўся Збаўца - Езус Хрыстус? Мы хочам убачыць Яго і пакланіцца Яму". Здзіўленыя бацькі адказалі: "Так, тут ... А як вы даведаліся пра гэта?" - "Анёлы паведамілі нам - распавёў адзін з пастухоў, - што гэтай ноччу ў горадзе нарадзілася Дзіця, Якое ўратуе ўвесь свет. І мы знойдзем Яго тут, які ляжыць у яслях". Пасля аповяду пастухоў, я зразумеў, што Езус не толькі Сын Божы, а яшчэ і Збаўца. Уяўляеце ?!

Потым да нас прыйшлі вельмі важныя госці - мудрацы з далёкай усходняй краіны. Ведаеце, як яны знайшлі дарогу? На небе мудрацы ўбачылі яркую вялікую зорку. Яна і прывяла іх да нашага Дзіцятка. Езуса мудрацы называлі Юдэйскі Цар. Яны прынеслі Яму падарункі: золата, ладан і смірну ...



Неўзабаве Юзаф, Марыя і маленькі Езус пакінулі нас. А мяне разам з сенам гаспадар вынес на вуліцу. Мае зярняткі патрапілі ў зямлю. Прыйдзе вясна, яны прарастуць разам з іншым насеннем і абавязкова раскажуць людзям пра цудоўнае Дзіця - Божага Сына, Цара і Збаўцу свету.

*Мастачка: **Вольга Будкіна;** ідэя: **Вікторыя Колзун***

# Что почитать?

**Трент Джон. «В погоне за тощим кроликом. Как выйти из эмоционального и духовного кризиса».**

**Виктория Заречная**

Доктор Джон Трент – христианский психолог и консультант, который известен своими семинарами о построении семейных и рабочих отношений. Он автор более десятка книг для взрослых и детей.

Данная книга написана в очень необычной и интересной форме, где главная мысль автора воплощена в аллегорию. Язык книги простой и понятный, поэтому она будет интересна не только специалистам-психологам, но и широкому кругу людей: начиная от подростков, которые ещё только на пути становления своих жизненных приоритетов, и заканчивая теми, кто уже, возможно, успел повстречать тощего кролика…

Тощий кролик – это собирательный образ, в который вошло всё, что уводит нас от настоящей цели и от реальной жизни, отдаляет от людей, истощает силы, убивает лучшие мечты, разрушает отношения с близкими и отнимает возможность получить дары, которые каждому из нас приготовил нам Бог.

Цель этой книги, как пишет сам автор, – научить читателей распознавать тощих кроликов. Вы получите в свое распоряжение прекрасное пособие – «Определитель тощих кроликов», которое очень полезно и практично. Книга поможет вам понять, не идёте ли вы по следу тощего кролика, вовремя уйти с опасной тропы и вернуться на путь истинный. А ещё книга Джона Трента научит вас, как полностью раскрыть свой потенциал и стать таким человеком, которым видит вас Бог. Автор указывает нам в сторону верных помощников в достижении наших целей, и даёт рецепт на счастливое будущее.

Книга принесёт большую пользу всем, кто стремится к личностному и духовному росту. Потому что именно таких людей – а не тех, кто ничего не делает, – подстерегает опасность погнаться за тощим кроликом.

Тонкий, добрый юмор, яркие образы, лёгкий стиль повествования позволяют читателю глубоко понять и осмыслить такие проблемы, как созависимость, различные зависимости, перфекционизм, низкая самооценка, неумение жить здесь и сейчас, и прочие неблагополучия, которые заставляют людей гнаться за соблазнами современного мира. Автор даёт, в некотором роде, инструкцию, которая поможет преодолеть депрессию и выйти из эмоционального и духовного кризиса.

Джон Трент предлагает нам свой детально разработанный метод, который позволяет каждому читателю определить, не пустился ли он в погоню за конкретным кроликом, вовремя остановиться и максимально преодолеть ущерб, нанесенный ловлей того самого кролика…




**Содержание**






# Зберажом святыню разам!

**Верніцы з Ушачаў робяць ружанцы, каб зарабіць грошы на рамонт храма. Мэта іх акцыі – сабраць сродкі на рамонт свайго храма.**

Касцёл ва Ушачах быў пабудаваны перад пачаткам Першай сусветнай вайны. Будынак моцна пацярпеў падчас падзей рэвалюцыі, грамадзянскай і савецка-польскай войнаў. У сярэдзіне 20-х гадоў савецкая ўлада забрала храм у вернікаў, а святара арыштавала. Пасля Другой сусветнай вайны больш за паўстагоддзя касцёл стаяў без даху. Намаганнямі вернікаў і ахвярадаўцаў два дзесяцігоддзі таму святыня была адноўлена і зараз тут рэгулярна праводзяцца богаслужэнні. Але храм патрабуе тэрміновага рамонта: паўстагоддзя без даху не прайшлі для яго бясследна. А маленькая супольнасць вернікаў не ў стане ўтрымаць такі вялікі будынак. Таму парафіі патрэбна дапамога.

**Кожны з нас таксама можа зрабіць свой невялікі ўнёсак у справу рамонту храма ва Ушачах. Дастаткова толькі замовіць тут ружанец для сябе або для сваіх блізкіх. Звяртайцеся па тэл.:** **+375 29 598 45 17 *(Ірына Вер'сава)*, +375 29 291 41 63 *(Ганна Струй)* і +375 29 587 44 76 *(кс. Віталь Галец)*.**

**Зберажом святыню разам!**





**Каталіцкая капліца ў анкадыспансеры ў Віцебску**

У Віцебскім абласным клінічным анкалагічным дыспансеры па адрасе вул. П. Броўкі, 33 дзейнічае каталіцкая капліца.
Святая Імша адпраўляецца кожны аўторак а 16.00.
Ёсць магчымасць запрасіць святара ў палату.
**Тэл. +375(29) 510-20-77 кс. Андрэй Аніскевіч**
**Тэл. +375(29) 894-55-11 сп. Яўгенія**

## Пакой для малітвы

ў Віцебскай абласной бальніцы знаходзіцца на другім паверсе галоўнага корпуса каля ліфта з боку неўралагічнага аддзялення.

Малітва – набажэнства, магчымасць сустрэчы з каталіцкім святаром: сакраментальная паслуга, размова, кожны аўторак, чацвер і пятніцу з 11.30.
Са святаром можна скантактавацца па тэлефоне:
+ 375 29 78 51 298

# Ахвяруй на "Каталіцкі Веснік"

Дарагія сябры!

Ёсць магчымасць дапамагчы газеце "Каталіцкі Веснік" фінансава. Мы залежым толькі ад Вашых ахвяраванняў! Дашліце нам усяго 2 рублі, і мы Вам будзем вельмі ўдзячныя!

Каб даслаць ахвяраванне, не трэба нікуды ісці. Зрабіць гэта можна з дапамогай свайго мабільнага тэлефона, падзяліўшыся сваім балансам. Даслаць у якасці ахвяравання 2 рублі можна, зрабіўшы наступнае:

1. Адпраўце USSD-запыт наступнага зместу:
*363*375295105172*2#
2. Вы атрымаеце на свой тэлефон USSD-паведамленне з кодам пацвярджэння.
3. Дашліце USSD-запыт наступнага зместу:
*363*[код пацвярджэння]#
4. Вы атрымаеце пацвярджэнне паспяховай аперацыі з кароткага нумара 364. З балансу Вашага тэлефона будуць спісаныя 2 рублі.

Увага!

Максімальны памер аднаразовага ахвяравання можа складаць толькі 2 рублі. Каб даслаць большую суму, неабходна паўтарыць аперацыю.

Рэдакцыя можа атрымаць не больш за 10 рублёў за каляндарныя суткі. Калі Вам прыйшло паведамленне пра памылку, калі ласка, дашліце ахвяраванне яшчэ раз або паўтарыце яго на наступны дзень.

Вялікі дзякуй за ахвяраванні на падтрымку газеты "Каталіцкі Веснік"! За ўсіх ахвярадаўцаў кожны месяц адпраўляецца св. Імша. Будзьма разам! Няхай Добрая Вестка заўсёды будзе ў Вашым доме!

***Рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"***

Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне "Віцебская дыяцэзія Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Выдавец:** рэлігійная місія "Дабрачыннае каталіцкае таварыства "Карытас" Віцебскай дыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь"

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Мастацкі рэдактар:** Леанід Юрык
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты "Каталіцкі Веснік", перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП "Віцебская абласная друкарня", г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 8175

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 2900 экз.
Аб'ём 4 друкавальныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 20.12.2018 г. у 10.09

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211793, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621




Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь